ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ
ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№3
(2509)

16 студзеня 1997 г.
Выдаецца з 1955 г.

Цана 1 000 рублёў.

## КАЛЯДЫ НА БЕЛАРУСІ






Свята "Мінскія каляды" — на вуліцах горада. *(Працяг фотарэпартажу на 8-й стар.).*

МАЮЧЫ СВАЁ, КУПЛЯЕМ ЧУЖОЕ

## БЕДНЯКІ, ЯКІЯ СЯДЗЯЦЬ НА СКАРБАХ

Калі заходзіць размова аб карысных выкапнях зямлі беларускай, у першую чаргу ўспамінаецца калійная соль, каменны вугаль, торф. Між тым Беларусь не проста мае ўласныя багатыя прыродныя запасы, больш таго — гэтыя запасы вывучаны. Па наяўнасці ў сваіх землях "табліцы Мендзялеева" Беларусь дасць фору многім краінам Еўропы, праўда, большасць прыродных выкапняў, здабычу якіх можна паставіць на прамысловую аснову, намі не асвоена. Здавалася б, абсалютна бязглуздая ідэя — развіццё ў Беларусі ювелірных вытворчасцей... Тым не менш, аказваецца, гэта рэальна.

Спецыялісты вызначаюць да двухсот непаўторных адценняў бурштыну, вырабы з яго вядомыя на працягу ўсёй гісторыі чалавецтва. Перыяд утварэння бурштыну супадае з часам гібелі дыназаўраў, амаль не сустракаюцца больш раннія ці познія бурштыны. З ім звязана рэкордная колькасць прымхаў і легенд.

Самае буйное з вядомых радовішчаў бурштыну знаходзіцца пад Калінінградам. У пасёлку Янтарны на ўзбярэжжы Балтыйскага мора штогод здабываецца 350—380 тон бурштыну. Высокі ўзровень здабычы з'явіўся крыніцай вельмі распаўсюджанай памылкі, згодна з якой Прыбалтыка разглядаецца, як ледзь ці не адзінае радовішча гэтага паўкаштоўнага каменю. На самай жа справе ён распаўсюджаны ў свеце значна шырэй, чым прынята думаць. Аб тым, што ў Беларусі таксама ёсць бурштын, і нямала, многія зараз прачыталі ўпершыню.

Яшчэ ў 20-я гады акадэмік А. Ферсман звярнуў увагу на тое, што ў Беларусі і Заходняй Украіне бытуе мноства забабонаў, звязаных з гэтым каменем. Між тым, свайго бурштыну ў гэтых краях нібыта не было. Прааналізаваўшы архіўныя матэрыялы, акадэмік прыйшоў да думкі аб магчымасці прамысловых месцараджэнняў бурштыну на тэрыторыях Беларусі і Украіны. Доўгі час гэта меркаванне заставалася толькі голай тэорыяй, першымі праверыць яе правільнасць вырашылі ўкраінцы. Менавіта імі былі выяўлены багаты бурштынавы россып, што мае прамысловае значэнне, у непасрэднай блізкасці ад мяжы з Беларуссю ў раёне пасёлка Клесава Ровенскай вобласці.

Затым пачаліся работы па пошуку бурштыну на тэрыторыі Беларусі. У выніку было адкрыта каля дзесяці рудапраяўленняў, у якіх удалося знайсці бурштын.

(Заканчэнне на 3-й стар.).

ВАЛЬНАДУМЕЦ З-ПАД НЯСВІЖА

## ВЯЗЕНЬ КАМЕРЫ ТРЫНАЦЦАЦЬ

Здавалася б, справа даўно мусіла зрушыцца з месца. Доказы віны Незабытоўскага былі, як кажуць, навідавоку. Віленская следчая камісія мела ў сваім распараджэнні рукапісы, аўтарства якіх сумнення не выклікала. Але арыштаваны трымаўся цвёрда, усе абвінавачванні рашуча адмаўляў. Нязломнасць духу, здзіўляючую вытрымку праяўляў нягледзячы на тое, што здароўе пачало пагаршацца.

Значнымі вынікамі следства пахваліцца не магло. І тады ў следчай камісіі ж вырашылі дзейнічаць інакш. Незабытоўскаму дазволілі перапіску з блізкімі яму людзьмі. Разважалі, што не можа таго быць, каб пасля стольких месяцаў утрымання ў засценках ён у чымнебудзь не прагаварыўся. Але сам Незабытоўскі, канечне, разумеў, што і да чаго, аднак вырашыў напісаць сястры Валерыі. Выглядў, што аб усім здагадваецца, не падаў, а наадварот, падкрэсліў: "...я павінен выйсці (на свабоду. — А. М) абавязкова, бо невінаваты і дакажу сваю невінаватасць". Ведаў: нікуды гэты ліст не пойдзе, будзе адразу перахоплены. Ведаў, таму і імкнуўся даказаць, што зламаць яго немагчыма.

Не проста да сястры звяртаўся Незабытоўскі... Ды і зразумеў, асабліва калі за кратамі апынуўся, якія розныя ў іх дарогі і якія

(Працяг на 4-й стар.).

З ЛАТВІІ

## БЕЛАРУСКАЕ СВЯТА Ў ДАЎГАЎПІЛСЕ

Летась, 23 лістапада, у латвійскім горадзе Даўгаўпілсе прайшоў Дзень беларускай культуры, арганізаваны мясцовым Таварыствам беларускай культуры "Уздым". Таварыства не мае пакуль што сваёй прасторнай сядзібы, таму яму на дапамогу прыйшлі расійцы, прадставілі беларусам двухпавярховы асабняк Цэнтра рускай культуры ў так званым Доме Калістратава на вуліцы Нометню. А пачалося гэта свята ў суботу, з адзінаццаці гадзін раніцы, у праваслаўным Барыса-Глебскім саборы, побач з будынкам былой беларускай гімназіі па Варшаўскай вуліцы, з малебна за беларускі народ. Малітва, якую чытаў айцец Георгій і дапамагаў яму царкоўны хор, была звернута да Бога і да апякункі і заступніцы беларусаў і зямлі беларускай Ефрасінні Полацкай, абраз якой знаходзіцца ў царкве побач з алтаром храма. У пятнаццаць гадзін гаспадарыні свята з "Уздыму" ў беларускіх строях з хлебам і соллю сустракалі гасцей у дзвярах Дома Калістратава.

Невялічкая ўтульная зала была запоўнена мясцовымі беларусамі. Удзельнікаў свята віталі ганаровыя госці — Генеральны консул Рэспублікі Беларусь у Даўгаўпілсе Анатоль Жалтоўскі, генеральны консул Расіі ў Даўгаўпілсе Генадзь Казначэеў, намеснік мэра горада Рыта Стродэ, прэзідэнт Цэнтра рускай культуры Фёдар Фёдараў, старшыня таварыства дружбы "Латвія — Беларусь" Інара Муканэ. Вітаць беларусаў прыйшлі таксама старшыні яўрэйскага, польскага, літоўскага і іншых культурных таварыстваў горада. З гісторыяй беларусаў у Латгаліі азнаёміў прысутных Мікола Паўловіч. У канцэртнай праграме свята прагучалі беларускія песні ў выкананні ансамбля "Купалінка" Даўгаўпілскага культурнага таварыства "Уздым" пад кіраўніцтвам Лiлii Чалідзе, а таксама дзетак мясцовых беларусаў вучняў Краслаўскай рускамоўнай школы і гасцей з Віцебскай філармоніі Галіны Калінінай і Аляксея Цітова. Гаспадар свята старшыня "Уздыму", вядомы беларускі паэт і дзеяч беларускага Адраджэння ў Латвіі, Станіслаў Валодзька парадаваў усіх сваімі пранікнёнымі патрыятычнымі вершамі. Дарэчы, тры тыдні таму ў гэтай жа зале адбылася беларуская імпрэза, прысвечаная выхаду з друку яго зборніка "У вачох Бацькаўшчыны" і яго саракагоддзю. У другой частцы праграмы адбылося адкрыццё мастацкай выставы Аб'яднання мастакоў-беларусаў Балтыі "Маю гонар", на якой старшыня аб'яднання Вячка Целеш і старшыня Латвійскага таварыства беларускай культуры "Сьвітанак" Ва-

(Заканчэнне на 5-й стар.).

ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

## ПРАВАСЛАЎНЫМ ВЕРНІКАМ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Шчыра віншую вас з вялікім і светлым святам — Нараджэннем Хрыстовым.

У гэты радасны і ўрачысты дзень людзі звяртаюцца да Бога з самымі запаветнымі словамі і думкамі. У іх сэрцах пануюць дабрыня і любоў да сваіх родных і блізкіх, сяброў і знаёмых.

Народу Беларусі ва ўсе часы былі ўласцівыя хрысціянскія каштоўнасці, якія з'яўляліся асновай духоўнага здароўя нацыі. І нам вельмі важна не толькі захаваць, але і прымнажыць гэтыя маральныя каштоўнасці. Сёння, як ніколі, вялікая роля праваслаўнай царквы з яе векавымі традыцыямі і прынцыпамі — высокай духоўнасцю, любоўю да блізкіх, спачуваннем і дапамогай абяздоленым.

У цяперашніх умовах, калі перад намі стаіць задача духоўнага адраджэння народа, хрысціянскія ідэалы дабрыні і справядлівасці, міралюбнасці і міласэрнасці займаюць важнае месца ў дзяржаўнай палітыцы.

Ад душы жадаю ўсім вам моцнага здароўя, шчасця, дабрабыту і ўзаемаразумення.

Няхай у вашых сем'ях заўсёды будуць мір, спакой і згода.

Аляксандр ЛУКАШЭНКА.

НАРАДЖЭННЕ ХРЫСТОВА НА БЕЛАРУСІ



Праваслаўныя хрысціяне Беларусі адзначылі адно з самых светлых святаў — Нараджэнне Хрыстова.

7 студзеня ўрачыстыя богаслужэнні адбыліся ва ўсіх праваслаўных храмах краіны. Святочную вячэрнюю літургію ў Свята-Духавым кафедральным саборы правёў мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі. На богаслужэнні прысутнічалі Прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка, члены беларускага ўрада, іншыя афіцыяльныя асобы.

"Мір, любоў, узаемаразуменне, цярпенне няхай прыйдуць у вашы дамы, — сказаў мітрапаліт Філарэт, звяртаючыся да тых, хто прыйшоў у храм. — Дай Бог, каб усе мы ў новым годзе былі носьбітамі евангельскіх, хрысціянскіх ідэалаў, добрых спраў у імя Хрыста. Блаславенне народжанага збавіцеля няхай будзе з усімі вамі і суправаджае вас".

Да святочных віншаванняў Уладыкі далучыўся Прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка, якога мітрапаліт Філарэт папрасіў выступіць з калядным прывітаннем. Кіраўнік дзяржавы падзякаваў усяму духавенству за дапамогу і падтрымку, аказаную ім свецкім уладам у цяжкія для нашай краіны часы. "У многім дзякуючы вам, дзякуючы вашым намаганням, мы захавалі мір, — сказаў Аляксандр Лукашэнка. — Мір — самы вялікі здабытак чалавецтва, самы вялікі здабытак нашага грамадства".

Прэзідэнт адзначыў, што цяпер беларуская дзяржава перажывае складаны перыяд свайго станаўлення. "Нам трэба зрабіць многае і для нашай царквы, — падкрэсліў ён. — Гэта будзе самае вялікае пакаянне перад людзьмі, якія ў вельмі цяжкія часы захавалі не толькі сваю веру, але і душы ўсіх нас. Сёння мы з гордасцю вяртаемся да тых святынь, якія змяшчаюцца ў вялікіх хрысціянскіх каштоўнасцях і запаведзях".

УКАЗАМ ПРЭЗІДЭНТА

## ЗА ДУХОЎНАЕ АДРАДЖЭННЕ

"Заснаваць пяць штогадовых прэмій "За духоўнае адраджэнне", якія прысуджаюцца за выдатныя творы літаратуры і мастацтва, актыўную падзвіжніцкую дзейнасць у гуманітарнай галіне, накіраваную на развіццё прагрэсіўных мастацка-маральных традыцый, якія садзейнічаюць усталяванню духоўных каштоўнасцей, ідэй дружбы і брацтва паміж людзьмі розных нацыянальнасцей і веравызнанняў".

Такі ўказ прыняў у першыя дні 1997 года Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. Лукашэнка.

Першымі лаўрэатамі новай прэміі сталі: Віктар Роўда — народны артыст СССР, прафесар; Ігар Карастылёў — настаяцель храма ў гонар іконы Божай Маці "Усіх тужлівых Радасце"; Вера Плюшчова — міласэрная сястра; Людміла Чысцякова, Аляксандр Касіцын, Валерый Прыгун, Андрэй Пыжык, Юрый Рудзевіч, Алег Сямёнаў — удзельнікі ансамбля "Чысты голас".

Прэміі прысуджаны Прэзідэнтам па прадстаўленні Міністэрства культуры Беларусі і Беларускай праваслаўнай царквы.

АПАЗІЦЫЯ

## НАЦЫЯНАЛЬНЫ ЭКАНАМІЧНЫ САВЕТ

8 студзеня быў створаны Нацыянальны эканамічны савет, або Грамадскі кааліцыйны ўрад дэмакратычных сіл Беларусі.

На першым пасяджэнні НЭС, якое адбылося 8 студзеня ў штаб-кватэры Аб'яднанай грамадзянскай партыі, разглядалася структура арганізацыі і былі сфармуляваны мэты яе дзейнасці. Як потым паведаміў на прэс-канферэнцыі журналістам Генадзь Карпенка, Грамадскі ўрад дэмакратычных сіл будзе займацца аналізам эканамічнай сітуацыі ў рэспубліцы і інфармаваннем насельніцтва аб сапраўдным стане спраў, распрацоўкай палажэнняў праграмы мер па выхаду эканомікі з крызісу.

Ініцыятары новага ўтварэння мяркуюць, што не будуць паўтараць памылак "ценявога кабінета" БНФ, які быў створаны, але рэальна не меў ніякага ўплыву на эканамічную палітыку ў Беларусі. Да таго ж яны лічаць, што ў адрозненне ад "ценявога Кабінета Міністраў", які прадстаўляў пераважна БНФ, Нацыянальны эканамічны савет прадстаўляе больш шырокія слаі. Аб сваім удзеле і падтрымцы пачынання ўжо заявілі Аб'яднаная грамадзянская і Аграрная партыі, Партыя камуністаў і Беларуская партыя працы, незалежныя прафсаюзы.

*"Мы шчыра жадаем супрацоўнічаць з Захадам, але толькі не за кошт пагаршэння адносінаў з Расіяй. Прыкладна так сфармуляваў гэту думку Прэзідэнт Беларусі А. Лукашэнка ў нядаўнім інтэрв'ю адной з амерыканскіх газет.*

*Але цесная інтэграцыя Беларусі і Расіі, відаць, і з'яўляецца яблыкам разладу для некаторых заходніх палітыкаў. Не ўсім падабаецца курс Прэзідэнта і ўрада рэспублікі на паглыбленне інтэграцыі з Расійскай Федэрацыяй. Прычыны зразумелыя. Сутнасць іх у эканоміцы і ў ваенна-палітычным супрацоўніцтве дзвюх дзяржаў. Таму сам факт правядзення ў нас рэферэндуму і яго вынікі — гэта ўсяго толькі чарговая падстава для націску на нашу палітыку. Думаю, што з цягам часу гэтыя рознагалоссі будуць ліквідаваны — мы гатовы да адкрытага, сумленнага і ўзаемавыгаднага супрацоўніцтва з Захадам".*

*(З інтэрв'ю карэспандэнту "Інтэрфакса" кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Беларусі Міхаіла МЯСНІКОВІЧА).*

НОВЫЯ МАСТЫ



За апошнія дзесяць гадоў у горадзе Масты пабудаваны цэлы мікрараён на пяць тысяч жыхароў пры агульнай колькасці гараджан 20 тысяч. У ліку навасёлаў аказаліся і 312 сямей, адселеных з чарнобыльскай зоны.

НА ЗДЫМКУ: пенсіянеры Кацярына Аляксандраўна і Уладзімір Іванавіч МАЛЕЦ раней жылі ў Брагіне. Але здарылася бяда, і давялося памяняць свой дом на новую кватэру ў Мастах.

РЭЖЫМ ГРАНІЦЫ

## СУПРАЦЬ НЕЛЕГАЛЬНЫХ МІГРАНТАЎ

На граніцы Віцебскай і Магілёўскай абласцей з Расійскай Федэрацыяй з пачатку гэтага года дзейнічае пагранічны рэжым. Ён уведзены расійскім бокам па ўзгадненню з абласнымі ўладамі і камандаваннем Пагранічных войскаў Беларусі.

Паводле даных, атрыманых БЕЛТА па каналах АНІА, на лініі працягласцю больш за 400 кіламетраў устаноўлена пагранічная зона шырынёй 5 кіламетраў, дзе пачата выбарачная праверка дакументаў з мэтай выяўлення іншаземцаў, якія імкнуцца нелегальна перасячы расійска-беларускую граніцу.

Гэта мера з'яўляецца вымушанай і выклікана рэзкім павелічэннем патоку мігрантаў з краін Азіі, Афрыкі і шэрагу дзяржаў былога СССР, што выкарыстоўваюць тэрыторыю Смаленскай вобласці як калідор для нелегальнага выхаду ў краіны Заходняй Еўропы. Пры гэтым устанаўленне больш жорсткага пашпартнага кантролю ў адносінах да іншаземцаў не ўшчамляе правоў мясцовых жыхароў і грамадзян СНД, якія, як і раней, змогуць свабодна перасякаць расійска-беларускую мяжу ў любы час.

АСТРОМІЦКІЯ «ВЯЧОРКІ»



Заўсёды святочна і прыгожа праходзяць Каляды ў вёсцы Астромічы Кобрынскага раёна. Работнікі мясцовага клуба гадоў дзесяць назад адрадзілі гэты абрад. І калі на вуліцы з'яўляюцца калядоўшчыкі, усе ад малога да вялікага прымаюць удзел у гэтым старадаўнім свяце. Перад святамі людзі збіраюцца ў клубе на "вячоркі", успамінаюць старажытныя рамёствы, абменьваюцца рэцэптамі калядных страў, рэпеціруюць калядныя песні.

НА ЗДЫМКУ: "вячоркі" ў Астроміцкім клубе.

БРЭСЦКІЯ СЫРАВАРЫ



Агляд-конкурс, які называўся "Дзень сыраробa", прайшоў у цэхах брэсцкага канцэрна "Мясамалпрам". Вытворчасць сыроў — адзін з традыцыйных "канькоў" канцэрна, што мае сем раскіданых па вобласці сыраробчых заводаў. Пра якасць вырабляемага тут прадукта гаворыць той факт, што звыш 70 працэнтаў брэсцкіх сыроў спажывае Расія. Адзін з тых сямі — Кобрынскі масласырзавод. Яго сыры прадаюць у Маскве і Пецярбургу, а сухое малако цэняць у Польшчы.

НА ЗДЫМКУ: кобрынскі сыравар Ганіла КАВАЛЮК.

НА ПЕРАВАЛЕ

## ЦЯЖКАЯ ТОЛЬКІ ПЕРШАЯ СОТНЯ

108-мы раз рыхтуецца адсвяткаваць свой дзень нараджэння віцьблянка Кацярына Лебедзева. Паводле яе прызнання, цяжка жыць толькі першыя сто гадоў, потым — лягчэй...

У такім паважным узросце чалавеку ўласціва скардзіцца на адзіноцтва. Аднак у Кацярыны Лебедзевай шмат сяброў і сябровак, прычым дзевяць з іх таксама ўжо звыш ста гадоў. Амаль стагоддзе за плячамі яшчэ ў 327 жыхароў горада Віцебска. Своеасаблівы рэкорд устанавіў 99-гадовы Антон Місурагін, які толькі напярэдадні Новага года выраўшыў пайсці на заслужаны адпачынак. А працаваў ён будаўніком.

AIDS

## СМЯРОТНЫ ВІРУС

Як паведамілі ў Рэспубліканскім цэнтры прафілактыкі СНІДу, на 3 студзеня 1997 года па Беларусі зарэгістравана 1 134 выпадкі захворвання на "чуму XX стагоддзя", у тым ліку па першасных лабараторных выніках. І ліпеня мінулага года гэтая лічба складала 130, 16 лістапада — 941. Па колькасці ВІЧ-інфіцыраваных "лідзіруе" Гомельская вобласць: 980 хворых (83 — на 1 ліпеня 1996 года), 811 — у Светлагорску, 116 — жыхары Жлобіна. У Мінску зарэгістравана 93 выпадкі.

Па сцвярджэнню ўрача Рэспубліканскага цэнтра прафілактыкі СНІДу Валянціны Быкавай, распаўсюджанне смяротнага віруса ідзе сярод наркаманаў, якія ўжываюць наркотыкі ін'екцыйна. Узрост ВІЧ-інфіцыраваных — ад 15 да 28 гадоў. У асноўным гэта навучэнцы ПТВ, школьнікі, беспрацоўныя.

ДЭМАГРАФІЯ

## СУМНАЯ СТАТЫСТЫКА

На Гродзеншчыне працягваецца пагаршэнне дэмаграфічнай сітуацыі. Як паведамілі карэспандэнту БЕЛТА, па папярэдніх ацэнках, у 1996 годзе насельніцтва вобласці зменшылася больш чым на 3 тысячы чалавек.

Рост смяротнасці адзначаны ў 12 з 17 сельскіх раёнаў. Напрыклад, у Шчучынскім раёне яна ўзрасла на 16 працэнтаў, у Свіслацкім і Карэліцкім — больш чым на 14 працэнтаў.

Асноўнай прычынай смяротнасці на Гродзеншчыне з'яўляюцца хваробы сістэмы кровазвароту. Затым ідуць анкалагічныя захворванні і хваробы органаў дыхання.

# З ПАСЛАННЯ ДА НАРАДЖЭННЯ ХРЫСТОВА

## МІТРАПАЛІТА МІНСКАГА І СЛУЦКАГА ФІЛАРЭТА, ПАТРЫЯРШАГА ЭКЗАРХА ЎСЯЕ БЕЛАРУСІ

Дарагія браты і сёстры! Час, у які мы жывём, — цяжкі. Але якраз цяпер на зямлі Белай Русі мы назіраем імкненне памножыць славу Божую і бачым яго добры плён — гэта тысяча праваслаўных абшчын, больш за дзесяць манастыроў, духоўныя школы епархіяльнага і прыходскага значэння. Не толькі не аслаблі, а ўмацоўваюцца з дня ў дзень спаконвечныя духоўнагістарычныя сувязі Вялікай, Белай і Малой Святой Русі. Беларускі, рускі і ўкраінскі праваслаўныя народы не падзяляюць святыні на "свае" і "чужыя", бо мы ўсе імкнёмся наладжваць нашае духоўнае жыццё паводле законаў Жыцця Вечнага, каб стаць суграмадзянамі святым у нашай Нябеснай Айчыне.

У дні святкавання Нараджэння Хрыстова мы з надзвычайнай выразнасцю ўсведамляем, што самае каштоўнае для чалавека і яго сям'і, для любой краіны і народа, які яе насяляе, — гэта мір... І сёння кожны з нас сапраўды робіцца сябрам Самога Хрыста Збавіцеля, калі захоўвае мір Хрыстоў у сваім сэрцы і ў сям'і, у жыллі і на працоўным месцы, у словах і ў справах сваіх.

1996 гадоў таму віфлеемскія пастухі пачулі Ангельскі спеў і добрую вестку пра тое, што "...в человецех благоволение!" Што ж гэта за слова, якое мы ўсё радзей чуем у штодзённай мітусні? Гэтае слова — ключ, якім адчыняецца для нас брама Царства Нябеснага, брама Жыцця Вечнага. А ключ гэты — наша "благоволение", наша добрая воля жыць паводле Хрыста і з Хрыстом, ісці ўслед за Ім...

Але тых, хто выбірае жыццё ў Хрысце, застаецца на зямлі ўсё менш, таму што няма добрае волі, няма "благоволения" ў чалавека, спакушанага тленнымі зямнымі каштоўнасцямі. Надта многія людзі пачалі свядома аддаваць перавагу глупству і ганебнасці, а не ведам Закона Божага і справам веры, міласэрнасці і любові.

Хіба не бачым мы вакол сябе ўжо не пасевы і не парасткі, а плады пагібелі? Хіба не трымцяць сэрцы нашыя ад нарастаючага мноства тых, хто ўзлюбіў цемру, хто служыць ёй чарамі і варажбой, хто спакушае людзей магічнымі ведамі, хто губіць душы іх, называючы сябе "ацаліцелямі" цела?..

Штодзень падчас Святой літургіі на праскамідыі свяшчэннаслужыцель згадвае Нараджэнне Хрыстова і Віфлеемскую зорку, якая і сёння вядзе нас да Народжанага Хрыста Збавіцеля. Святло гэтай зоркі Гасподняй асвятляе ўсіх і прыводзіць нас у царкву, у Дом Божы. І мы становімся падобнымі да тых мудрацоў, якія з далёкіх краін прыйшлі ў Віфлеем на пакланенне Богадзіцятку і прынеслі свае падарункі — золата, ладан і смірну.

А мы прынясём у дар Богу наша пакаянне, міласэрнасць, любоў і паяднаемся з Хрыстом...



Віншуючы з Нараджэннем Хрыстовым нашых братоў і сёстраў, якія належаць да іншых хрысціянскіх канфесій, мы заклікаем усіх у аднадумнасці і аднадушнасці памнажаць дабро, шчырасць і любоў у свеце і на зямлі нашых продкаў. Няхай цяперашняе навалецце ўвянчаецца добрым плёнам духу стваральнасці і еднасці!

**Нараджэнне Хрыстова, 1996/97.**

Мінск.

# БЕДНЯКІ, ЯКІЯ СЯДЗЯЦЬ НА СКАРБАХ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

— Сёння геолагамі ў межах Беларусі выдзелены тры перспектыўныя бурштынаносныя вобласці, — расказаў вядучы супрацоўнік Інстытута геалогіі Акадэміі навук Рэспублікі Беларусь В. Бордан. — Па-першае, гэта Заходнебеларускі рэгіён, дзе сустракаюцца кавалкі бурштыну да трох сантыметраў у папярочніку. Па-другое, — Палессе. Трэцяя вобласць, дзе можа быць знойдзены прамысловы бурштын, поўдзень Беларусі, раён Мікашэвічаў і Жыткавічаў. Бурштын размешчаны на невялікай глыбіні, памер зярнят — ад долей міліметра да 10—15 сантыметраў. Вынікі даследаванняў сведчаць аб тым, што Прыбалтыка, Украіна і Беларусь уяўляюць сабой адзіную бурштынаносную правінцыю і дазваляюць лічыць усю паўднёвую частку Беларусі перспектыўнай тэрыторыяй, дзе могуць быць схаваны россыпы бурштыну.

Гаварыць аб прамысловых запасах беларускага бурштыну пакуль не даводзіцца, але вельмі магчыма, што на тэрыторыі Беларусі могуць быць знойдзены буйныя радовішчы. Ужо сёння выдзелена сем і больш плошчаў, у межах якіх можна весці распрацоўкі, а беларускае Палессе з поўным правам можна разглядаць як першачарговы раён пошукаў новых радовішчаў бурштыну. Пошукі прамысловых радовішчаў працягваюцца, а рудапраяўленні "Аборава" і "Мікашэвічы" ўжо можна адносіць да разраду радовішчаў. Самым жа буйным разведаным масівам на тэрыторыі Беларусі з'яўляецца размешчанае ў Брэсцкай вобласці Гатчынскае радовішча. Яго прагнозныя запасы складаюць прыкладна 311 тон, што для бурштыну з'яўляецца вельмі сур'ёзнай лічбай.

Сёння звязаныя з бурштынам работы вядуцца па двух напрамках: аб'яднанне "Беларусьгеалогія" займаецца разведкай і здабычай бурштыну, калектыў супрацоўнікаў пад кіраўніцтвам І. Ур'ева ў Інстытуце геалогіі працуе над напрамкамі выкарыстання гэтага каменю. Дарэчы, яшчэ адна памылка, звязаная з бурштынам, — гэта перакананне, што прымяняць яго можна выключна як вырабны камень у ювелірнай прамысловасці. Сапраўды, найбольш буйны і прыгожы бурштын выкарыстоўваецца менавіта там. Тым больш, што ў Беларусі можна знайсці практычна ўсе разнавіднасці бурштыну, характэрныя для радовішчаў Прыбалтыкі. Пры гэтым ён добрай якасці, па афарбоўцы нават больш разнастайны за прыбалтыйскі.

Тут сустракаецца жоўты, аранжавы, карычневы і нават самы рэдкі чорны бурштын. Ды і памер кавалкаў вагаецца ад некалькіх грамаў да васьмісот... Аб тым, што беларускі бурштын мае несумненную каштоўнасць і можа з'яўляцца крыніцай даходу для краіны, гаворыць і той факт, што да яго праяўляе настойлівую цікавасць Калінінград, які з'яўляецца сусветным лідэрам па здабычы і перапрацоўцы бурштыну.

Аднак, згодна з сусветнай практыкай, таварны бурштын складае толькі каля двух з паловай працэнтаў ад агульнай масы знойдзенага. Яшчэ пяць з палавінай — сем працэнтаў складае больш дробны бурштын, які таксама ідзе на ўпрыгажэнні і розныя вырабы. Прыкладна трыццаць працэнтаў здабытага бурштыну прасуюць, спякаюць па асобай тэхналогіі і выкарыстоўваюць у ювелірнай прамысловасці. Так што, на жаль, большая частка ўпрыгажэнняў, што ёсць у нас, выраблена з прасаванага бурштыну, але толькі спецыялісты з-за адсутнасці асобай воблачнай павалокі, з-за большай аднароднасці і іншых ледзь заўважных прыкмет змогуць адрозніць яго ад натуральнага. І прыкладна шэсцьдзесят працэнтаў складае так званы лакавы бурштын — "драбяза", якая ідзе на сухую перагонку. У выніку гэтай аперацыі атрымліваецца бурштынавая кіслата і бурштынавая каніфоль. Сфера прымянення бурштынавай кіслаты даволі шырокая — яе выкарыстоўваюць для атрымання некаторых пластмас, поліэфірных смол, фарбавальнікаў, інсектыцыдаў, для сінтэзу пахучых вуглевадародаў і, мабыць, самае галоўнае, у медыцынскай прамысловасці. Пры апрацоўцы насення сельскагаспадарчых культур слабым растворам бурштынавай кіслаты ўраджайнасць узрастае ў паўтара раза. Адным словам, як заўважыў вядучы навуковы супрацоўнік Інстытута геалогіі Акадэміі навук Рэспублікі Беларусь Ілья Ур'еў, калі ўлічыць, што бурштын перапрацоўваецца без якіх-небудзь адходаў, а сфера яго прымянення шырокая і прыбытковая, распрацоўка нават невялікіх пакладаў будзе рэнтабельнай. Аднак у аб'яднанні "Беларусьгеалогія", якое займаецца разведкай і распрацоўкай радовішчаў бурштыну, эйфарыі наконт перспектыў здабычы і перапрацоўкі айчыннага сонечнага каменю, падобна, не адчуваюць. Шматлікія "калі?" "дзе?" "колькі?" разбіваюцца аб традыцыйнае "будзе фінансаванне — будзе і працяг работ". Сёння на гэтыя работы няма грошай, а значыць, няма і беларускага бурштыну.

Аднак бурштын — не адзіны каштоўны камень, якім можа пахваліцца Беларусь. Мала каму вядома, што наша рэспубліка трапіла ў поле зроку вядомай паўднёваафрыканскай кампаніі "Дэ Бірс". І звязана гэта не толькі з тым, што тэрыторыя нашай краіны стала транзітнай для расійскіх алмазаў, якія нелегальна, па-за маркетынгавым пагадненнем, пакідаюць тэрыторыю расійскай мытнай прасторы. "Дэ Бірс", якая, па розных ацэнках, кантралюе ад 60 да 80 працэнтаў сусветнага гандлю неапрацаванымі алмазамі, цікавяць у Беларусі патэнцыяльныя запасы алмазаносных парод.

На жаль, гаварыць аб брыльянтах можна толькі штампамі, таму што ўсе словы захаплення аб іх ужо сказаны. Але што рабіць, калі іх бляск сапраўды сляпіць, заварожвае, прымушае траціць розум і ўчыняць вар'яцтвы. Аднак ювелірныя ўпрыгажэнні — далёка не адзіная і нават не галоўная сфера выкарыстання гэтых камянёў. Тэхнічныя алмазы (а брыльянт, як вядома, ёсць не што іншае, як апрацаваны алмаз) складаюць важную частку стратэгічных запасаў усіх прамыслова развітых краін, і калі з амерыканскай прамысловасці зняць усе тэхнічныя алмазы, што там выкарыстоўваюцца, то яе канкурэнтаздольнасць зменшыцца на трэць. Трэба думаць, што гэта тычыцца не толькі Амерыкі... Ужо некалькі гадоў у беларускай прэсе з'яўляюцца паведамленні аб знойдзеных у нас алмазах. Паспрабуем паглядзець на гэтую праблему з пункту гледжання вучоных. У геалогіі вельмі шырока развіты метад аналогіі. Дык вось, калі параўноўваць глыбінную будову і гісторыю геалагічнага развіцця тэрыторыі вядомых алмазных правінцый, размешчаных у Індыі, Афрыцы, Кітаі, Якуціі і Архангельскай вобласці, з тымі ж паказчыкамі ў Беларусі, можна выявіць многа агульных рысаў. І ў першую чаргу, з вядомай апошнім часам Архангельскай алмазаноснай правінцыяй, якая знаходзіцца ў межах адзінай з Беларуссю геалагічнай структуры — Рускай платформы. А Архангельскае радовішча лічыцца вельмі перспектыўным.

Колькасць алмазаў, знойдзеных у керне пры бурэнні толькі адной шчыліны радовішча "Ламаносаўскае", цалкам акупіла ўсе работы, якія былі праведзены з пачатку пошуку. Аднак усё гэта можна лічыць толькі тэарэтычнымі перадумовамі, ці так званымі пошукавымі крытэрыямі. А вызначальнымі з'яўляюцца пошукавыя прыкметы — мінералы-спадарожнікі, якія нарадзіліся на тых жа глыбінях, што і алмазы. І на тэрыторыі Беларусі былі выяўлены піропы, хромшпінеліды, высокахромістыя пароды, якія традыцыйна суправаджаюць каштоўныя алмазы. Наступным этапам стала выяўленне кімберлітавых трубак.

Калі на тэрыторыі краіны ёсць трубка ці з'яўляецца хаця б найменшая магчымасць яе выяўлення, якой бы беднай краіна ні была, яна знаходзіць сродкі, каб давесці да канца даследчыя работы. Сёння ў Беларусі работы вядуцца толькі на адным участку, размешчаным у Паўночна-Прыпяцкім перспектыўным раёне. А заслугоўваючых увагі ўчасткаў як мінімум шэсць. У межах жа ўчастка, які распрацоўваецца, налічваецца каля ста трубак. Згодна з сусветнай статыстыкай, са ста трубак дзве, як правіла, нясуць у сабе алмазы, і прыгодныя для прамысловай распрацоўкі. На сённяшні дзень у Паўночна-Прыпяцкім раёне правераны яшчэ не ўсе трубкі, але ў адносінах 25 даказана, што гэта трубкі ўзрыву, і ў сямі з іх знойдзены алмазы. Праўда, пакуль размова ідзе аб адзінкавых зернях. Але што важна, гэта ювелірныя, вельмі прыгожыя камяні.

Разлічваць на тое, што ў бліжэйшы час на сусветным рынку з'явяцца беларускія алмазы, не даводзіцца. Згодна з сусветнай практыкай, ад пачатку работ да адкрыцця алмазных капальняў праходзіць 25—30 гадоў. Мы маем шанс аказацца рэкардсменамі і тут: беларускія геолагаразведачныя магутнасці дазваляюць ацэньваць усяго шэсць трубак у год, і паколькі на тэрыторыі рэспублікі няма ўласнай абагачальнай фабрыкі, узятыя пробы вагой пяць-шэсць тон даводзіцца адпраўляць у Сімферопаль.

Хаця прамысловых радовішчаў у Беларусі яшчэ не выяўлена, аўстралійскія фірмы ўжо цяпер выказалі гатоўнасць укласці сродкі ў ацэнку беларускіх месцараджэнняў і іх распрацоўку. Такі кантракт даў бы магчымасць ужо праз пяць гадоў пасля знаходкі прамысловай трубкі атрымаць беларускія алмазы. Расійская кампанія "Рускія алмазы" таксама праявіла цікавасць да мяркуемага беларускага радовішча. Аднак мы ўмудраемся заставацца беднымі, нават у літаральным сэнсе седзячы на скарбах. Гаворачы ў сваім нядаўнім інтэрв'ю аб мяркуемым супрацоўніцтве з аўстралійскай кампаніяй "Аштон" і расійскай "Рускія алмазы", начальнік аддзела цвёрдых карысных выкапняў Беларускага навукова-даследчага геолагаразведачнага інстытута Яўгеній Нікіцін заўважыў, што "на жаль, ні з першымі, ні з другімі супрацоўніцтва не адбылося. Справа ў тым, што ў Вярхоўным Савеце рэспублікі вось ужо тры гады пыліцца закон, які рэгламентуе выкарыстанне нетраў". Так што, мяркуючы па ўсім, галоўны дывідэнд, які мы ў бліжэйшыя гады будзем мець ад айчынных алмазаў, гэта пачуццё глыбокага задавальнення ад іх наяўнасці ў нашых нетрах.

Сітуацыю гэтую унікальнай ніяк не назавеш. Так, на Прыпяці знаходзіцца найбуйнейшае Брынеўскае радовішча гіпсу, аб'ём якога мільярд тон! Тым не менш, яно не распрацоўваецца. У Беларусі знаходзяцца чатыры буйныя радовішчы фасфарытаў. І зноў жа, замест таго каб здабываць свае, мы ўвозім фасфарыты з Расіі. Маючы ўласныя запасы каалінавых глінаў, якія з'яўляюцца сыравінай для фарфоравай прамысловасці, Беларусь працягвае закупляць іх за мяжой. Застаецца вырашыць пытанне, што больш танна — здабываць свае ўласныя выкапні ці ўвозіць сюды тое ж самае з Расіі, паспяхова развіваючы эканоміку суседняй дзяржавы. Зрэшты, геолагі на гэтае пытанне ўжо адказалі, навукова абгрунтаваўшы мэтазгоднасць развіцця ўласнай вытворчасці, якая дазволіць не толькі насыціць уласны рынак, але і прадаваць беларускія карысныя выкапні спажыўцам з іншых краін.

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**

# ВЯЗЕНЬ КАМЕРА ТРЫНАЦЦАЦЬ

(Працяг.
Пачатак на 1-й стар.).

непадобныя ў яго і Валерыі погляды на жыццё. Але не здзіўляўся, а ў нечым і апраўдваў сястру. У яе ж сям'я, не пра сябе адну даводзіцца рупіцца. Ён жа адзінокі, а таму ў нечым усё і прасцей.

Звяртаўся Незабытоўскі і да тых, каму, магчыма, калі-небудзь удасца ўсё ж далучыцца да яго спавядальных радкоў. То няхай ведаюць: як бы цяжка ні даводзілася, а ён не зламаўся, не праявіў нават мінутнай слабасці.

Першым уважліва і сур'ёзна паставіўся да гэтага ліста Незабытоўскага вядомы даследчык беларускай літаратуры і краязнаўства С. Александровіч. Прачытаў і даў вельмі высокую ацэнку таму, што з'явілася з-пад пяра непахіснага вязня трынаццатай віленскай камеры, калі па сутнасці ўжо канчаткова вырашыўся яго лёс: "На чатырох старонках ліста-запавету А. Незабытоўскі раскрывае ўсю сваю багатую інтэлектуальную натуру, ваяўнічы і стойкі характар. Тут не толькі гнеўныя і смелыя, але і здзеклівыя словы, адрасаваныя царскім сатрапам, тут тонкая іронія і гумар (ён прапаноўвае сястры замест слова "панове" ўсюды разумець "панулочыя"), развітальны наказ пляменнікам. Нават абмалёўваючы свой турэмны выгляд, ён не можа абысціся без іроніі, смяецца з тых, хто спрабуе разыграць камедыю з лістом. Увогуле, у лісце А. Незабытоўскага да сястры нічога не было, чаго так чакалі і спадзяваліся знайсці члены Віленскай следчай камісіі".

Сцяпан Хусейнавіч пазнаёміўся і з іншымі матэрыяламі, што тычацца лёсу гэтага далёка не ардынарнага чалавека і захоўваюцца найперш у архівах Літвы і Беларусі. І першым С. Александровіч падрабязна расказаў пра Незабытоўскага, ужо назвай сваёй кнігі "Вальнадумца з-пад Нясвіжа Аляксандр Незабытоўскі" (1975), з якой, дарэчы, і прыводзяцца ўсе цытаты ў гэтым нарысе, падкрэсліўшы тое галоўнае, што рухала мяцежным нясвіжскім памешчыкам у яго паўсядзённай дзейнасці.

Так, Незабытоўскі быў нясвіжскім памешчыкам, хоць, па асобных звестках, ён нарадзіўся 15 верасня 1818 года ў колішнім маёнтку Зубкава (цяпер аднайменная вёска Навагрудскага раёна). Прынамсі, гэтая дата і гэтае месца нараджэння згадваюцца ў спісе студэнтаў Дэрпцкага універсітэта, у якім ён пазней вучыўся. І ўсё ж матэрыялы следчай камісіі, відаць, былі больш дакладнымі. Згодна з імі, Незабытоўскі нарадзіўся 2 кастрычніка 1819 года. І не ў Зубкаве, а ў маёнтку Смалічы (цяпер вёска ў Нясвіжскім раёне). Запіс пра яго ёсць і ў метрычных кнігах Цімкавіцкага касцёла, чаму таксама нельга не верыць. Да таго ж, калі б нават і нарадзіўся на Наваградчыне, дык ніхто б не запісваў яго ў Цімкавічах. У метрычных кнігах Незабытоўскі згадваецца пад трайным імем Хрыстафор-Іван-Аляксандр. Хрыстафорам, дарэчы, звалі і яго бацьку — багатага памешчыка Мінскай губерні, які з'яўляўся прэзідэнтам Мінскага губернскага межавога суда.

Алесю споўнілася толькі сем гадоў, калі памёр бацька. Пачатковую адукацыю атрымаў дома, але, паколькі ў сям'і быў дастатак, у 1827 годзе, праз год пасля смерці бацькі, Незабытоўскі паехаў з маці ў Варшаву. Там яго аддалі на вучобу ў французскі пансіён Шапэна, а яшчэ праз два гады быў пераведзены ў пансіён Кастля. Заканчваў жа вучобу ў пансіёне Пашкоўскага. Знаходжанне ў Варшаве тым самым заняло восем гадоў.

Як прызнаваўся пазней у мемуарах Незабытоўскі, у гэты час найбольш захапляўся матэматыкай, хоць таксама любіў гісторыю і геаграфію. У Варшаве, як бачна, Незабытоўскі знаходзіўся ў час пачатку паўстання 1830 года. Ці не ў гэтыя дні ён адпусціў на волю і свайго слугу, прыгоннага селяніна з вёскі Савейкі (сёння Клецкі раён) Рыгора Шынгеля. Ва ўсякім разе, калі заканчваў вучобу ў Варшаве (гэты 1835 год супаў з годам смерці яго маці) і кіраваўся на матэматычны факультэт Дэрпцкага універсітэта, быў ужо адзін. Невядома, па якіх прычынах выпускных экзаменаў ва універсітэце не здаваў і, як пісаў пазней, "вучонай ступені не атрымаў". Адно вядома, што і ў Варшаве, і ў Дэрпце часта хварэў. Ды і знаходзіўся Незабытоўскі пастаянна пад наглядам урачоў, якія прызналі ў яго залатуху.

Калі вярнуўся на радзіму, дакладна невядома. Дакументальна засведчана толькі, што з 29 студзеня 1839 года па 19 верасня 1842 года служыў у канцылярыі Ігуменскага павятовага маршалка, атрымаў чын калежскага асэсара і неўзабаве стаў губернскім сакратаром. Жыў, праўда, не ў самім Ігумені, а ў маёнтку Лапічы. А як развітаўся са службай, вярнуўся ў Смалічы. Асноўнай прычынай стала тое, што з кожным днём горшала здароўе. Пачаў прымаць захады, каб паехаць за мяжу. Ды і ўрачы на гэтым настойвалі.

Асноўнай прычынай, але не адзінай... На гэты час, як устанавіў С. Александровіч, прыпадае і пачатак літаратурнай дзейнасці Незабытоўскага: "...было прагнае жаданне і няўрымслівае імкненне наладзіць за мяжой сувязі з польскімі дэмакратычнымі коламі, а цераз іх з парыжскімі выдаўцамі, каб выдаць там свае творы. Тут, у Расіі, — ён гэта добра разумеў, — іх надрукаваць нельга".

Як быццам, усё прасцей простага... У тыя часы памешчыкі (ды і ўсе, хто мог сабе дазволіць гэта) без асаблівых перашкод пакідалі радзіму. І на доўгі час, і на адносна кароткі. А вось Незабытоўскі адразу сутыкнуўся з цяжкасцямі. Каб не давяраць яму, падставы ва ўлад былі. І немалыя. Справа ў тым, што малодшы брат яго бацькі, дзядзька Сцяпан Незабытоўскі, прымаў актыўны ўдзел у паўстанні 1830—1831 гадоў. На шчасце, яму ўдалося ўцячы ад пакарання. Царскім сатрапам заставалася адно: канфіскаваць яго маёнтак Міратычы на Наваградчыне і асабістую маёмасць. Сам жа Сцяпан Незабытоўскі аказаўся недасягальным, бо пасяліўся ў Парыжы.

Праўда, пра гэта, відаць, не ўсе ведалі, а мо з цягам часу і проста забыліся. Прынамсі, калі ўлетку 1842 года Незабытоўскі звярнуўся з просьбай да мінскага губернатара Сямёнава дазволіць паехаць у Германію, каб падлячыцца на водах у гарадку Эмс, той падтрымаў яго. Інакш да ўсяго паставіўся віленскі генерал-губернатар Міркові, да якога прашэнне паступіла па інстанцыі. Ён выказаў занепакоенасць наконт магчымай за мяжой сустрэчы Незабытоўскага з дзядзькам ці ўдзелу яго ў палітычнай сходцы эмігрантаў. Міркові загадаў мясцоваму начальству сабраць на Незабытоўскага агентурныя даныя. А ў выніку адмовілі ў выдачы замежнага пашпарта.

Толькі за трэцім разам, а гэта было ўжо ў 1844 годзе, жаданы дакумент Незабытоўскі ўсё ж атрымаў. Са Смалічаў Незабытоўскі выбраўся ў няблізкую дарогу 5 жніўня 1844 года... Яго спадарожнікамі сталі фурман Ян Каладзінскі і слуга Марцін Сысун. Наперадзе было падарожжа працягам у тры гады. Лёгка бег тарантас, мераючы вярсту за вярстой. Неспакой апанаваў Незабытоўскага толькі тады, калі, дабраўшыся да Брэста, павярнулі ў Цярэспаль. Там, як вядома, знаходзілася мытня. Аднак у мытнікаў падарожнікі асаблівай цікаўнасці не выклікалі. Нават ніхто з іх і не падумаў як след агледзець груз. А калі б зазірнулі ў перадок тарантаса, бяды не мінаваць... У ім і знаходзіліся рукапісы твораў Незабытоўскага. Хаця, калі б і знайшлі іх, наўрад ці аказаліся б ахвотнікі асабліва ўчытвацца. Карыстаўся ж Незабытоўскі зусім не рускай мовай.

14 жніўня падарожнікі былі ўжо ў Кракаве. Далей, а дарога тым часам ляжала на Вену, Незабытоўскі дабіраўся чыгункай. А ў верасні таго ж 1844 года ён перабраўся ў Італію.

Пасля былі Іспанія, Партугалія, Англія, Парыж, Грэцыя... А потым — зноў Італія, Вена, Кракаў...

Зваротны шлях і радаваў: усё ж пасапраўднаму паспеў засумаваць па родных мясцінах, але адначасова і трывожыў: ужо не з аднымі рукапісамі вяртаўся, а і з кнігамі, выдадзенымі ў Парыжы... Хоць і без указання аўтарства, але перастрахавацца, як кажуць, не лішне. Нечакана ўзнікшы, гэтая думка нагадала аб сабе пры набліжэнні да мяжы Аўстрыі з Расіяй. Менавіта тут з расійскага боку знаходзілася вядомая Радзівілаўская мытня. У строгасці яе работнікаў пераканаліся многія, каму даводзілася нелегальна правозіць і розныя тавары, і падпольную літаратуру.

Начуўся пра гэта і Незабытоўскі. Таму вырашыў звярнуцца за паслугай да мясцовых кантрабандыстаў. Тыя да падобных просьбаў прывыклі, толькі запатрабавалі добрай платы.

Аднаго не ведаў Незабытоўскі: мясцовая таможня падтрымлівала самым цесным чынам супрацоўніцтва з паліцыяй Дубенскага павета, да якога адносілася і мястэчка Радзівілава. Найбольшую ж пільнасць праяўляў прыстаў нехта Палецкі, які нават арганізаваў засакрэчаную сетку шматлікай агентуры. Сваіх людзей Палецкі меў і сярод саміх кантрабандыстаў. Яны і далажылі яму, што трэба чакаць перапраўку забароненай літаратуры.

Палецкім былі арганізаваны адпаведныя захады. А ў выніку 8 ліпеня 1847 года ў руках прыстава знаходзіліся ажно тры мяхі з кнігамі і рукапісамі. Кантрабандысты, якія суправаджалі нагружаную імі фурманку, пачуўшы цёмнай ноччу вокліч: "Стой! Страляць буду!", палічылі за лепшае ўцячы.

Калі Незабытоўскі ў вызначаны час і ў вызначаным месцы не сустрэў тых, на каго спадзяваўся, ён зразумеў, што адбылося непапраўнае. Але, паколькі быў упэўнены, што ніякіх доказаў супраць яго няма, вырашыў спакойна ехаць далей...

Канечне, мытнікі былі людзьмі невялікай граматы, і ў рукапісах, напісаных на чужой мове, яны разабрацца як след не маглі. Але ў пільнасці ім не адмовіш. І памяць добрую мелі. Помнілі, што літаральна за дзень да гэтага, 7 ліпеня 1847 года, праз Радзівілава праехаў памешчык Мінскай губерні Іван-Аляксандр Незабытоўскі. А тут якраз сярод розных папер знайшлі квіток Нясвіжскай паштовай канторы, згодна з якім перасылаліся грошы нейкай Незабытоўскай у Брэст. Ды і ў іншых матэрыялах, прыгледзеўшыся ўважлівей, прозвішча Незабытоўскі сустрэлі неаднойчы. Сумненняў не заставалася: перахопленая кантрабанда належыць менавіта гэтаму Івану-Аляксандру Незабытоўскаму, якога яны свабодна прапусцілі ды яшчэ пажадалі шчаслівай дарогі.

Пра гэта сам Незабытоўскі, безумоўна, ведаць не мог. Не асабліва ўстрывожыла яго і тое, што пры праверцы дакументаў у Радзівілаве мытнікі затрымалі ў яго ўсё ж замежныя кнігі і апячаталі іх. Ён тут жа даў распіску, што па вяртанні на радзіму пакажа гэтую літаратуру мінскаму губернатару, каб змест яе прагледзела цэнзурная камісія. А тым часам за Незабытоўскім ужо сачылі, чакаючы, пакуль вышэйшым начальствам будзе аддадзены загад аб яго затрыманні. Нарэшце падобны загад з'явіўся за подпісам жытомірскага губернатара. Праз дзень, 12 ліпеня, Незабытоўскі быў затрыманы на Лагішынскай паштовай станцыі, і яму загадалі вярнуцца ў Пінск.

Давялося сем месяцаў правесці ў мясцовай турме. Здавацца не збіраўся. Больш таго, звярнуўся з прашэннем да Мірковіча. Той дазволіў Незабытоўскага адпусціць. Дзейнічаў падобным чынам, праўда, зусім не з гуманных матываў. Проста меркаваў, што Незабытоўскаму належаць толькі кнігі, затрыманыя ў Радзівілаве. Хоць гэта і кантрабанда, ды няма падстаў, каб за падобную правіннасць доўга трымаць у турме. А каб мець думку наконт гэтага і кіеўскага губернатара, звярнуўся да таго з просьбай растлумачыць, за што затрымалі Незабытоўскага.

Там жа паступова ўсё стала зразумелым. Ні для кога ўжо не з'яўлялася сакрэтам, што Незабытоўскі аўтар не толькі затрыманых рукапісаў, а і кніг, ад якіх своечасова пазбавіліся кантрабандысты. Кіеўскі генерал-губернатар Бібікаў пра ўсё паведаміў у Варшаву Паскевічу. Той жа, у сваю чаргу, загадаў Мірковічу тэрмінова перавесці Незабытоўскага ў Віленскую крэпасць, а яго справу перадаць у мясцовую следчую камісію.

Міркові добра ведаў, што гэтая камісія займаецца разглядам спраў асабліва небяспечных палітычных злачынцаў. І вось такога злачынцу ён па сваім недаглядзе адпусціў!

Віленскі генерал-губернатар спалохаўся не на жарт... Незабытоўскаму інкрымінавалася знявага "гасудара імператара і іншых высокіх асоб усерасійскага дому самымі нізкімі і дзікімі лаянкамі", "пошукі сродкаў для знішчэння цяперашняга ўраду ў Расіі", "напісанне і падрыхтоўка да друку заклікаў з мэтай узбунтаваць польскія правінцыі і адарваць іх з-пад уладарання Расіі", "варожыя водгукі пра манархічны лад наогул і выстаўленне сябе заўзятым радыкалам, які прагне царскай крыві і гатовы ісці разбураць троны". Апрача таго ўказвалася, што Незабытоўскі мае сувязі з "польскім дэмакратычным таварыствам у Парыжы" і "атрымаў ад яго злачынныя даручэнні".

Міркові паспяшаўся як мага хутчэй выправіць дапушчаную памылку. Нягледзячы на тое, што Незабытоўскі ў гэты час цяжка хварэў, яго 10 верасня 1847 года спешна даставілі ў Мінск. Міркові падганяе мінскага губернатара Сямёнава хутчэй даставіць злачынцу ў Вільню. Сямёнаў спасылаецца на заключэнне ўрачоў, але пры гэтым, безумоўна, клапоціцца, каб у горадзе і губерні ўсё заставалася спакойна. У Мінску ж якраз у гэты час праходзілі дваранскія выбары, адусюль з'ехаліся памешчыкі, а тут арышт іх таварыша...

У Вільню Незабытоўскага даставілі толькі 5 кастрычніка і адразу змясцілі ў адзіночку пад нумарам 13. А 9 кастрычніка пачаліся допыты...

Самы час пазнаёміцца і з літаратурнымі творамі Незабытоўскага, паколькі са старонак іх у многім і паўстаюць палітычныя погляды мяцежнага нясвіжскага памешчыка.

Усяго Незабытоўскі выдаў ананімна пяць кніг у Парыжы і дзве ў Вільні. У гэтым шэрагу па мастацкіх вартасцях ці не на першым месцы стаіць "Міцкевіч. Славянскія літаратуры" (Парыж, 1845). Гэта крытычны разгляд творчай спадчыны знакамітага беларуска-польскага паэта. Невялікі, усяго 49 старонак, зборнік уяўляе сабой аналіз лекцый, прачытаных Міцкевічам у снежні 1842 года — красавіку 1843 года на кафедры славянскай літаратуры ў парыжскім Калеж дэ Франс.

Хоць Незабытоўскі не хаваў захаплення сваім кумірам, тым не менш ён востра, палемічна крытыкаваў яго, калі не пагаджаўся з некаторымі поглядамі. Напрыклад, выступаў супраць славянафільскіх ідэй Міцкевіча. Не прымаў і польскага месіянізму, вытокі якога бачыў у цяжкім эмігранцкім жыцці выгнанніка. Прааналізаваў Незабытоўскі і паэму "Дзяды".

"Мае запіскі" Незабытоўскага (Парыж, 1845) — мемуарны твор, праўда, не ўвесь, а толькі ўрывак з яго кнігі "Рэвалюцыйны перыяд", што належаў да другой часткі пад назвай "Варшава". С. Александровіч выказваў меркаванне аб наяўнасці ў следства пад рукой поўнага тэксту гэтых мемуараў. З апублікаваных раздзелаў бачна, наколькі Незабытоўскі імкнуўся быць як мага больш аб'ектыўным. У прыватнасці, адносна падзей паўстання 1830—1831 гадоў. Самі ж успаміны, на думку С. Александровіча, пісаліся ў 1835—1838 гадах, падчас навучання аўтара ў Дэрпцкім універсітэце.

Незабытоўскі прызнаваўся: "Тое, што бачыла дзіця, юнак зараз будзе апавядаць. Аднак зусім бесстаронні не буду; наадварот, заўсёды заўзята і па-свойму буду выказвацца пра людзей, буду заўсёды горача і па-свойму тут ацэньваць падзеі".

І сапраўды, па-свойму. Не пашкадаваў ён гнеўных слоў "бяздарным кіраўнікам", якія своечасова не далі зброю народу. Хоць не абышлося і без прадузятасці. Напрыклад, у адносінах да вядомага рэвалюцыянера І. Ляпевеля. Але ж Незабытоўскі знаходзіўся ў палоне тагачаснага стаўлення да яго.

Куды важней, аднак, адносіны яго да цара. Мікалая І інакш, як Неронам І, ён не называе, а царскую сям'ю — ненавісным агідным племем", "сабачым родам". І нават непасрэдна звяртаецца да гэтага Нерона: "Пачакай, Мікалай! Малюся пякельным фурыям,.. каб далі сілы дачакацца гадзіны помсты і бачыць твае мукі і тваю смерць і з гневам у вачах, з нянавісцю ў сэрцы таптаць вольнай нагой труп дэспатызму і твае крывавыя шчэлепы".

Безумоўна ж, такое нарадзілася з-за таго, што паўстанне было падаўлена, а надзеі чарговы раз не спраўдзіліся.

Але ж гэтая кніга — адначасова і прызнанне аўтара ў любові да Бацькаўшчыны. Чытаеш мемуары і раз-пораз сутыкаешся з выразамі, ад якіх цяплей становіцца на сэрцы. Няма сумнення, хто пісаў такое: "нашых ліцвінаў", "на нашым літоўскім гарызонце", "літоўскі закутак". Канечне ж, той, хто любіў сваю Бацькаўшчыну, родную Беларусь. І гэтая замілаванасць жыла ў душы Незабытоўскага з маленства, з той пары яшчэ, калі чалавек толькі пачынае ўваходзіць у вялікі свет жыцця.

Гэтаксама не выклікае сумнення і тое, што аўтар "Маіх запісак" выхоўваўся ў беларускамоўным асяроддзі і ніколі не лічыў яго для сябе чужым. Ды і, відаць, у сям'і таксама з павагай ставіліся да роднай мовы. Інакш адкуль узяцца ў Незабытоўскага такому прызнанню: "Калі я быў дзіцем, мне надоўга далося ў знакі ліцвінскае паходжанне: аднакашнікі смяяліся з мае мовы, мае працяглае гаворкі". Не пакідала Незабытоўскага і пачуццё патрыятызму. Ён не прымаў і не мог прыняць тых, для каго польская арыентацыя становілася нормай паўсядзённых паводзін: "Для іх Літва нібы не існавала зусім. Увогуле дакараю я Карону за пагардлівыя і амаль непрыязныя адносіны, за погляд звысока, з якім яна пазірала раней і цяпер на так званую Літву".

**Алесь МАРЦІНОВІЧ.**

(Заканчэнне будзе).

# БЕЛАРУСКАЕ СВЯТА Ў ДАЎГАЎПІЛСЕ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

сіль Малышчыц віталі даўгаўпілскіх беларусаў і азнаёмілі з сваімі творамі і творамі сваіх калег па аб'яднанню — Тамары Насенка і Ларысы Лойка з Рыгі, Крысціны Балаховіч і Алега Аблажэя з Вільні, Маргарыты Астраумавай з Эстоніі і Янкі Кузьміцкага са Швецыі. У адной з залаў экспанаваліся працы народнай творчасці, прывезеныя з Беларусі, якія захоўваюцца ў прыватных зборах мясцовых беларусаў. Скончылася свята шчодрым беларускім застольем з беларускімі дранікамі, скваркай, грыбамі, печывам і беларускай гарэлачкай, спецыяльна прывезенымі з Беларусі гаспадарамі імпрэзы. У час застолля не абышлося без беларускіх песень, якія перарываліся конкурсам на лепшае выкананне беларускай песні, верша, прыказкі, прымаўкі і танца.

Раз-пораз гучалі тосты "Жыве Беларусь!", за беларускую культуру, за беларускую дыяспару, за беларускую нацыю.

Як вядома, горад Даўгаўпілс — адзін з цэнтраў беларускай культуры і асветы ў даваеннай Латвіі. Менавіта тут у 20-х гадах зараджалася і віравала беларускае культурна-асветнае жыццё, бо тут найбольш жыло беларусаў. У часы дыктатуры прэзідэнта Ульманіса ў 30-х гадах і ў часы савецкай таталітарнай сістэмы беларускае культурнае жыццё ў гэтым горадзе было спынена.

У сённяшні час у Даўгаўпілсе, як і ва ўсёй Латгаліі, беларусаў пражывае не менш, чым у тыя часы, але беларускае культурнае адраджэнне тут намнога адстае ад Рыгі. Нягледзячы на тое, што Беларускае культурнае таварыства "Уздым" існуе не першы год, леташні Дзень беларускай культуры ў гэтым горадзе і краі можна лічыць першым крокам у вялікай праграме беларускага Адраджэння ў Латгаліі. Прычына такога запозненага беларускага Адраджэння ў тым, што Даўгаўпілс найбольш расійскамоўны горад у Латгаліі, ён найбольш быў саветызаваны. Прычына яшчэ ў эканамічным стане горада ў адносінах да Рыгі і амаль у адсутнасці тут нацыянальна свядомай беларускай інтэлігенцыі, адсутнасці сувязей з латышскай нацыянальнай інтэлігенцыяй.

Каб падняць нацыянальную свядомасць у Даўгаўпілсе, патрэбна ў першую чаргу беларуская нядзельная школа, якая выхоўвала б патрыятызм, любоў да роднай мовы, нацыянальнай культуры і гісторыі ў дзяцей беларусаў, якія вучацца ў мясцовых рускамоўных школах. Патрэбна і адкрыццё беларускай нацыянальнай сярэдняй школы. Аднак, як відаць з маёй паездкі, да гэтага пакуль што тут далёка. На сённяшні час не хапае ў Даўгаўпілсе самаахвярнай працы кожнага сябра "Уздыму" для арганізацыі падобных Дзён беларускай культуры і іншых беларускіх вечарын, каб да кожнага беларуса Даўгаўпілса даляцела беларускае слова, беларуская песня і кранула сваёй ласкай, пяшчотай і лёгкім подыхам роднай Бацькаўшчыны. Гэта, я думаю, ужо ўсвядомілі тыя, хто пабыў на беларускім свяце ў Даўгаўпілсе, бо, як паведамілі мне пры развітанні спадар С. Валодзька і консул спадар А. Жалтоўскі, які дапамагае шмат мясцовым беларусам, што ў наступным годзе падобнае свята будзе арганізавана на больш высокім узроўні.

Будзем спадзявацца і чакаць, што так яно і будзе, калі прадстаўнікі ўлад Рэспублікі Беларусь у Латвіі будуць дапамагаць беларускай дыяспары ў адраджэнні нацыянальнай беларускай культуры і асветы, калі беларускі ўрад не будзе ў баку ад сваіх суродзічаў, якія жывуць за мяжой.

**Вячка ЦЕЛЕШ.**

г. Рыга.

## *СПРАВА КАМІСАРА МІКАЛАЯ ЮНГА*

# БЕЗ ВІНЫ ВІНАВАТЫ

У СУСВЕТНАЙ гісторыі падобнага, бадай, яшчэ не бывала: спачатку лепшыя з лепшых, а потым усе ці амаль усе военачальнікі і палітработнікі, аж да палкавога звяна, былі знішчаны, загнаны ў канцлагеры, ашальмаваны. Чырвоная Армія, прызнаная ва ўсім свеце адной з мацнейшых, аказалася абезгалоўленай за два-тры гады.

Глыбінныя прычыны разгрому камандных, палітычных, навуковых і інжынерных армейскіх кадраў замоўчваліся нават у 70-я гады. Аб вядомых военачальніках 30-х гадоў паведамлялася, што яны храбра ваявалі ў грамадзянскую вайну, якія пасады займалі ў далейшым. Ні радка пра тое, пры якіх акалічнасцях пайшлі з жыцця. Быццам невядомая пошасць скасіла большасць герояў грамадзянскай вайны ў 1937-м і 1938-м.

Аднак гісторыя — рэч упартая, парасткі ісціны рана ці позна, але ўсё роўна прабіваюцца. Колькі іх было — ахвяр масавых рэпрэсій у Чырвонай Арміі напярэдадні другой сусветнай вайны? Лічба — 44 тысячы рэпрэсіраваных з ліку афіцэрскага корпуса Чырвонай Арміі (даныя аб сярэднім і радавым саставе адсутнічаюць увогуле) — не адлюстроўвае сапраўдных памераў трагедыі.

Па архіўных звестках, толькі з 27 лютага 1937 года па 12 лістапада 1938-га НКУС атрымаў ад Сталіна, Молатава і Кагановіча санкцыі на расстрэл 38 679 ваеннаслужачых. Дабавім больш за 3 тысячы знішчаных камандзіраў флоту, каля 20 тысяч палітработнікаў і ваенныя кадры, знішчаныя да 27 лютага 1937 года і пасля 12 лістапада 1938 года... Колькасць ваеннаслужачых камандзірскага саставу, што бязвінна загінулі, перавысіць 50 тысяч. Мікалай Юнг, дывізіённы камісар, — адна з ахвяр гэтых рэпрэсій. Ён служыў у Беларусі. Кроўна звязаны з гэтай зямлёй, таму што яго жонка, якая да канца засталася яго вернай спадарожніцай, тут нарадзілася. Недзе ў наваколлі Мінска пахаваны гэты адданы Радзіме сын.

Мікалай Юнг нарадзіўся ў Маскве ў сям'і чыгуначнага служачага. Жылося цяжка — з 10 гадоў працаваў хлапчук у шынках, чайных, шавецкай і кравецкай майстэрнях, потым паступіў на Маскоўска-Казанскую чыгунку чорнарабочым, апальшчыкам, качагарам, памочнікам машыніста.

У маі 1919 года ён добраахвотнікам пайшоў у Чырвоную Армію, з якой звязаў свой лёс, удзельнічаў у баях з дзянікінцамі. А праз пару гадоў Мікалай Юнг — ваенком 13-га чыгуначнага палка ў Туркестане — змагаецца з басмачамі ў Фергане і Закаспійскай вобласці, у цяжкіх кровапралітных баях праяўляе асабістую мужнасць і адвагу. Варонеж, Харкаў, Ленінград — адрасы далейшай ваеннай службы М. Юнга.

З 1928-га па 1930 год ён пампаліт, а затым камісар кавалерыйскай школы ў Ленінградзе. Тут ён сустрэўся з цудоўнай жанчынай — Лізаветай Цёмкінай, ураджэнкай мястэчка Дрыбін Заходняй вобласці. Камсамолка, а затым член партыі, яна працавала на фабрыцы "Скараход", была вылучана на партработу ў Маскоўскі райком ВКП(б) Ленінграда. У 1930 годзе яны пажаніліся. А ў 1932-м начальнік палітаддзела 4-й кавалерыйскай дывізіі Мікалай Юнг быў пераведзены для далейшай службы ў Слуцк, летам 1933 года — у Мінск, у 3-ці конны корпус памочнікам камандзіра корпуса па палітычнай частцы. У Мінску сям'я Юнгаў пражыла чатыры шчаслівыя гады. Абодва многа працавалі. Памочнік камандзіра корпуса М. Юнг шмат часу ўдзяляў будаўніцтву Дома афіцэраў: ён быў назначаны адказным за тое будаўніцтва.

Летам 1937 года ў М. Юнга пачаліся непрыемнасці, відаць, звязаныя з даносам на яго. Намеснік ваеннага пракурора БВА ўсумніўся, ці працаваў Юнг у дэпо былой Маскоўска-Казанскай чыгункі з 1916 па 1919 год апальшчыкам, качагарам і г. д. Пацвярджэнне таму пракурор атрымаў. Але ўсё роўна Юнгу паставілі ў віну, што яго пяцігадовы сын выхоўваўся ў адной групе з сынам Галадзеда, у той час — Старшыні Савета Міністраў БССР, арыштаванага як "вораг народа", а таксама ўдзел у Талмачоўскай "унутрыармейскай апазіцыі" 1928 года.

Пачаліся праверкі, але дзякуючы таму, што М. Юнга высока характарызавалі яго саслужыўцы Г. Жукаў, А. Тадорскі — як "адданага справе партыі, сумленнага, актыўнага палітработніка... надзейнага праваднікa марксісцка-ленінскіх ідэй, усе абвінавачванні былі зняты. Юнга назначылі членам Ваеннага савета Сібірскай ваеннай акругі, і ён з сям'ёй у жніўні 1937-га выехаў у Новасібірск — новае месца службы.

Усе гэтыя гады з ім дзяліла цяжар паходнага жыцця сябра і жонка Лізавета Цёмкіна. Жыццё гэта, цяжкае і небяспечнае, выклікала павагу ўсіх, хто быў знаёмы з іх сям'ёй. Яны былі шчаслівымі. Але ўсё абарвалася ў адно імгненне. Лізавета Міхайлаўна ўспамінае, што ў канцы снежня 1937 года Юнг быў выкліканы ў Маскву ў Наркамат абароны. У студзені за ёю з дзецьмі прыехаў яго брат.

У Маскве на вакзале іх сустрэў Мікалай Альбертавіч. Быў спакойны, жартаваў, хаця кожны дзень хадзіў ці званіў у Палітупраўленне, спрабуючы даведацца аб рашэнні свайго пытання. Але што ён сапраўды думаў аб сітуацыі, як ён ацэньваў? Арышты ж у Маскве ішлі на ўсю моц. Ці зрабіў ён што-небудзь шкоднае для арміі? Вядома, не. Усё жыццё без астатку было аддадзена ўмацаванню яе баявой магутнасці. Ну а яго баявыя таварышы, ужо арыштаваныя ці расстраляныя, — няўжо "ворагі"?

М. Юнга арыштавалі 31 студзеня 1938 года. Лізавета Міхайлаўна ўспамінае той вечар: "...мы сядзелі за сталом і вячэралі ў яго брата, які вярнуўся з Кіславодска, дзе скончыў будаўніцтва санаторыя. Раздаўся тэлефонны званок з ПУРа, і Юнгу прапанавалі з'явіцца. Ён адказаў, што "позна і далёка ехаць", прасіў перанесці размову на раніцу. Яму ў гэтым было адмоўлена, і ён паехаў, нават не развітаўшыся са мной, але папрасіў брата яго праводзіць". Відаць, думаў пра арышт — перадаў брату чыгуначныя дакументы на атрыманне багажу з Новасібірска. Наступнай раніцай Лізавеце Міхайлаўне рабочы НКУС заявіў, што Юнг арыштаваны. З таго дня пачаліся шматгадовыя хаджэнні Лізаветы Міхайлаўны ў НКУС, Ваенную калегію Вярхоўнага суда, ваенную пракуратуру, якія працягваліся дзесяцігоддзямі.

Толькі ў красавіку 1989 года сям'я даведалася, што ў снежні 1937 года і студзені 1938 года НКУС накіроўваў прадстаўленні на імя Варашылава аб арышце шэрагу военачальнікаў, у ліку якіх быў і член Ваеннага савета Сібірскай акругі М. Юнг. Сёння мы можам дакладна сказаць, што актыўны ўдзел у вырашэнні пытання аб арышце прынялі Е. Шчадзенка, Л. Мехліс і Г. Маленкоў.

Пра далейшы лёс М. Юнга вядома нямнога. З Лубянкі яго перавялі ў Бутырскую турму, затым — у Смаленскую. Двойчы пабывала там Лізавета Міхайлаўна, перадала бялізну, крыху грошай, пісьмы, "каб ён ведаў, што я яго падтрымліваю. На жаль, былі і такія жонкі, якія адмаўляліся ад сваіх мужоў". Пісем Мікалай Альбертавіч не атрымаў. Ад смаленскага следчага жонка даведалася, што Юнг нераведзены ў Мінск "на даследаванне". 2 ліпеня 1938 года, як паведамлялі ваенны пракурор, Юнг быў асуджаны на 10 гадоў без права перапіскі. Тысячы сваякоў рэпрэсіраваных чулі гэтыя словы, але не падазравалі, што такі прыгавор азначае расстрэл.

У 1944 годзе Лізавета Міхайлаўна з дзецьмі вярнулася ў Ленінград. Кожны месяц пасылала пісьмы Сталіну, Варашылаву, Калініну, Берыі з адзінай просьбай — паведаміць, дзе знаходзіцца яе муж. Пасля кожнага звароту яе выклікалі ў НКУС—МДБ і гаварылі: "Што вы хочаце, ваш муж — вораг народа" ці "Ваш муж у пошуку". І кожны раз прапаноўвалі афарміць развод, на што заўсёды была катэгарычная адмова.

У красавіку 1956 года справа па абвінавачванню Мікалая Юнга была перагледжана Ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР. Прыгавор Ваеннай калегіі ад 2 ліпеня 1938 года ў адносінах да М. Юнга адменены, справа за адсутнасцю складу злачынства спынена. У тым годзе Лізавета Міхайлаўна атрымала "пасведчанне" аб смерці, выдадзенае Фрунзенскім ЗАГСам горада Ленінграда, у якім было ўказана, што Юнг М. А. памёр 21.XII.1940 года ва ўзросце 36 гадоў. У графе "Прычына смерці" стаяла стандартная фраза "Няма вестак". І толькі ў 1990 годзе даведалася праўду аб тым, што "Юнг Мікалай Альбертавіч, 1905 года нараджэння, ураджэнец горада Масквы, з 1919 года ў Савецкай Арміі, воінскае званне — дывізіённы камісар, апошняя пасада — член Ваеннага савета Сібірскай ваеннай акругі, член ВКП(б), быў неабгрунтавана арыштаваны 31 студзеня 1938 года органамі НКУС. 02 ліпеня 1938 года Ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР па артыкуле 58 п.16.п.11 КК РСФСР (рэд. 1926 г.) асуджаны да вышэйшай меры пакарання. Прыгавор прыведзены ў выкананне 02.07.38 г. у г. Мінску, адначасова ў сувязі з арыштам ён быў выключаны з членаў ВКП(б).

На судовым пасяджэнні Юнг М. А. вінаватым сябе не прызнаў, сказаў, што ўдзельнікам ваеннай змовы супраць урада не быў і ніякіх злачынстваў не ўчыняў. Дадатковай праверкай устаноўлена, што паказанні сведкаў з'яўляюцца лжывымі, а таксама, што былыя работнікі НКУС, што прымалі ўдзел у расследаванні справы Юнга М. А., праводзілі незаконныя арышты савецкіх грамадзян, прымянялі да арыштаваных забароненыя меры вядзення следства, за што яны ў 1939 годзе асуджаны.



Рашэннем Ваеннай калегіі Вярхоўнага суда СССР (186) 4н-04585 ад 25.04.56 г. Юнг М. А. рэабілітаваны".

Толькі ў 1992 годзе Лізавета Міхайлаўна атрымала сапраўднае пасведчанне аб смерці мужа:

"Грамадзянін Юнг Мікалай Альбертавіч памёр 02 ліпеня 1938 г., аб чым у кнізе рэгістрацыі актаў аб смерці 1956 года студзеня месяца 3 чысла зроблены запіс (186) 13.

Прычына смерці: расстрэл.

Месца смерці: горад Мінск".

Недзе пад Мінскам, магчыма, у Курапатах, сярод тысяч ахвяр сталінскіх рэпрэсій ляжыць прах Мікалая Юнга. Цяжкае дзяцінства, вогненнае юнацтва, беззапаветная адданасць справе сацыялізму — і трагічная гібель у росквіце гадоў. Навошта і каму трэба было вырваць з армейскага строю і з жыцця дывізіённага камісара Юнга, які служыў Савецкай уладзе верай і праўдай, як і тысячы самых таленавітых военачальнікаў той пары?

Зоркай першай велічыні на ваенным небасхіле ён не быў, на блізкасць да "прастола" не прэтэндаваў. Жудасныя словы прыгавору М. Юнгу: "Знаходзячыся на службе ў ваеннай разведкі адной з замежных дзяржаў... сістэматычна дастаўляў ваенным колам гэтай дзяржавы шпіёнскія весткі, учыняў шкодніцкія акты... рыхтаваў на выпадак ваеннага нападу на СССР паражэнне Чырвонай Арміі... меў сваёй мэтай садзейнічаць расчляненню Савецкага Саюза і аднаўленню ў СССР улады памешчыкаў і капіталістаў..." Гэта ён, чалавек "з нізоў", які аддаў лепшыя гады жыцця ўсталяванню ўлады рабочых і сялян? Неверагодныя, фантастычна бязглуздыя абвінавачванні ў здрадзе Радзіме і прадажніцтве! Але што асабліва горка і павучальна, дык гэта тое, што небывалы гвалт і нечуваная жорсткасць Сталіна, Яжова, Вышынскага, Берыі і іх верных сатрапаў, на жаль, атрымліваюць сляпое і дружнае адабрэнне запалоханага народа...

**Ігар КУЗНЯЦОЎ.**

# НА СКРЫЖАВАННІ

Шкада, што ні Пятрусь Усцінавіч, ні Алена Міхайлаўна не дажылі да 15 кастрычніка 1993 года, калі было апублікавана пісьмо Панамарэнкі Сталіну, каб паскорыць санкцыю на арышт Купалы і Коласа і іх вучняў, "безусловно подлежащих аресту и суду, как враги народа". Датавана яно 21 лістапада 1938 года № 978. Так Панцеляймон Кандратавіч "ратаваў" і гасціннага гаспадара — Петруся Броўку.

Але абмінем адступленне і вернемся назад у Каралішчавічы 1956 года, да нашых ранішніх праходак да Свіслачы і назад. Яго ўражвалі мае расказы пра жахі допытных "канвеераў", пра адзіночкі і карцэры, пра зламаную садыстамі-следчымі волю Чарота, Галавача, Зарэцкага, Каваля, Дудара, пра даведзенага да вар'яцтва апантанага камуніста Ізі Харыка, пра трагічную гібель Васіля Шашалевіча і Валодзі Хадыкі. Пятрусь моўчкі слухаў, часам, нібы праціраючы акуляры, змахваў слязінку і ўздыхаў: "Ах, такіх талентаў, такіх цудоўных хлопцаў, сумленнейшых пісьменнікаў, звялі са свету. Каб яны гэтыя дваццаць гадоў жылі і працавалі, беларуская літаратура была б вядомая ў свеце".

На запыты Саюза пісьменнікаў пра лёс пасмяротна рэабілітаваных з "таго органа" звычайна паведамлялі: "Умер от воспаления лёгких в 1943 году", "Скончался от сердечной недостаточности в 1944 году". І так пра кожнага, каб стваралася ўражанне, што ўсе яны загінулі ў вайну. Уводзілі ў зман, каб абяліць сваіх папярэднікаў-катаў, каб і самім выглядаць чысцейшымі. Я даводзіў Броўку, што ўсе яны былі расстраляны ў кастрычніку-лістападзе 1937 года, калі ў Мінск прыехала Ваенная калегія Вярхоўнага суда на чале з самым страшным душагубам Ульрыхам. Ён адправіў на той свет тысячы лепшых, таленавіцейшых людзей. Суд звычайна пачынаўся ў 15 гадзін, заканчваўся ў 15 гадзін 15 хвілін. Загадзя аддрукаваны прысуд з упісаным прозвішчам заканчваўся адным сказам: "К высшей мере — расстрелу".

Броўка пацікавіўся: "Адкуль ты гэта ведаеш?" Турма жыла сваім жыццём — перастукам па "бястужаўцы", пісулькамі ў прагулачных дворыках і прыбіральнях, асабліваў міжкамернай сувяззю. І яшчэ была неабвержная прыкмета: калі арыштоўвалі жонку і па неіснуючаму артыкулу "ЧСИР" (член семьи изменника Родины) давалі 8 гадоў лагера, значыць муж расстраляны. Так сядзелі жонкі Галавача, Харыка, Кляшторнага, Сташэўскага, Каваля, Лявоннага і ўсіх расстраляных.

Лютаўскімі досвіткамі мы шпацыравалі кожны дзень. Я адкрываў Петрусю жахлівую праўду. Неяк успомніў дзекабрыстаў. Іх жонак па дарозе ў Сібір да мужоў сустракалі губернатары, прымалі ў сваіх палацах, мянялі коней, частавалі, выпраўляючы ў дарогу. "Што ты хочаш? Тады быў іншы свет, іншыя людзі і норавы, а мы пачынаем як варвары".

Больш абавязковага, дакладнага і добразычлівага чалавека, чым Броўка, я ў сваім доўгім жыцці не сустракаў. У гэтым я пераканаўся за доўгія гады знаёмства, працы пад яго началам, прыватных сустрэч і сумесных паездак. Ад'язджаючы з Каралішчавіч, сказаў зайсці ў Саюз, пацікавіўся, ці заходзіў Вялюгін і ці ўзяў вершы. Яны з'явіліся ў "Полымі" ў жніўні, у красавіцкім нумары "Маладосці" ўжо друкаваліся чатыры мае "сібірскія" вершы. З'яўленне іх у друку я чакаў, як уваскрашэння, распяты і забыты ўсімі на дваццаць гадоў. Увага і падтрымка Броўкі былі самыя важныя і адчувальныя. Пры людзях я не адважваўся фамільярнічаць і называў імя і па бацьку, ён з падкавыркаю адказваў: "Так, так, Сяргей Іванавіч, хоць мы з табою гадоў дваццаць пяць знаёмыя".

У Доме творчасці я напісаў "Лясную казку" і новыя вершы, аднавілі мяне на ранейшай рабоце ў радыёкамітэце. Броўка якраз у той час заканчваў свой першы раман "Калі зліваюцца рэкі". Праўда, ён не ўзбагаціў нашу прозу і творчыя набыткі аўтара, але быў патрэбны ў той час кіраўнікам "высокага дому". Загадана было перадаць асобныя раздзелы па радыё. З аўтарам дамаўляўся я, часам ён сам прыносіў урыўкі, часцей я хадзіў да яго. Аднойчы мы сустрэліся на пляцу Волі, пагаварылі аб будзённым, Пятрусь расшпіліў папку і падаў мне машынапісны экземпляр новай паэмы "Заўсёды з Леніным". "Вазьмі, пачытай і надоўга не адкладайце. Шчыра пісаў пасля з'езда. Няхай людзі паслухаюць". Я ўзяў і папрасіў, каб прачытаў сам, бо так узнёсла і выразна наўрад ці прачытаў бы хто. "Калі спатрэблюся, загадзя пазвані. Добра?" — і ўжо заняты сваімі клопатамі, падаў руку і шпарка пайшоў уніз па Ленінскай вуліцы. Ён, як і ўсе мы, свята верыў у геній, гуманнасць і дабрату правадыра, не ведаючы і часцінкі праўды. Чытаў паэму Броўка натхнёна, на высокай ноце. Яе шмат разоў паўтаралі ў запісе. Напэўна, і цяпер яна захоўваецца ў фондах фанатэкі. Часам думаю цяпер, якую пазіцыю заняў бы Броўка ў наш заблытана-скрутны час. Ён і тады многае разумеў, з многім не згаджаўся, абураўся, але партыйная дысцыплінаванасць не дазваляла адкрыта і галасна выказаць тое, што непакоіла і вярэдзіла душу. Ён часта "станавіўся на горла ўласнай песні", а на "фінішнай прамой" зразумеў, што галоўнага яшчэ не сказаў, і загучаў шчыры, лірычны і светлы голас Броўкі ў кнігах лірыкі "Пахне чабор", "Між чырвоных рабін", "Ты — мая пчолка". Многія яго спавядальныя вершы сталі папулярнымі песнямі і загучалі ад Буга да Ціхага акіяна. Ён не цярпеў хлусні і фальшу, не вытрываў бы іх і цяпер...

Тады ён заўсёды пра некага думаў, клапаціўся, стараўся зрабіць дабро. Ён ведаў, хто яго недалюблівае, і разбройваў іх дабратою, увагаю, дапамогаю. А да каго быў прыхільны, таго стараўся наблізіць да сябе. У канцы лета 1959 года запрасіў Броўка ў свой "кабінет" на першым паверсе даўно зніклага двухпавярховага дома на вуліцы Энгельса. Навошта спатрэбіўся, даўмецца не мог, яшчэ больш быў здзіўлены, калі ён прапанаваў узначаліць секцыю паэзіі і перайсці ў Саюз пісьменнікаў на пасаду літаратурнага кансультанта. Я аднекваўся, даводзіў, што не маю маральнага права ўзначальваць секцыю, бо ў паэзіі сам яшчэ нічога не зрабіў. "Я сачу за друкам, чытаю твае публікацыі і ведаю, што раблю, упэўнены, што справішся". Пераканаў і ўгаварыў. З ім нельга было не згаджацца.

Да гэтай пары не магу зразумець, чым заслужыў увагу і ласку Петруся Усцінавіча, чаму ён столькі мне рабіў дабра да сваіх апошніх дзён. І тут лаўлю сябе на думцы: "А каму ён зрабіў што кепскае, каго зняважыў, пакрыўдзіў, каго не абараніў, каму не дапамог?!" А мог ён многае. Яго аўтарытэт у народзе, у ЦК, урадзе быў самы высокі, з ім усе лічыліся, ні ў чым не маглі яму адмовіць.

Саюзам пісьменнікаў тады фактычна кіравалі ўтрох: старшыня — Броўка, намеснік — Шамякін і сакратар — разважлівы, спакойны і добразычлівы Мікола Ткачоў. Пры іх было тры кансультанты — Хадкевіч, Грамовіч і я. Адна машына, доўгі, як балагольскі воз, "ЗІМ" і шафёр Міша Макарэвіч. Заўсёды прыгарнітураны і прыгальштучаны, салідны і глыбокадумна маўклівы. Яго ў паездках часам недасведчаныя ў літаратуры гаспадары прымалі за "галоўнага пісьменніка", саджалі на пачэснае месца, а ён маўчаў і толькі ківаў галавою.

Броўка мяне без маіх просьбаў часта ўключаў у пісьменніцкія брыгады на Дні літаратуры ў Літве, Латвіі, Расіі, аднойчы ў Маскве прапанаваў мяне прадстаўляць беларускую літаратуру на юбілеі чэшскага паэта Петра Безруча. Гэта была незабыўная паездка: я ў Празе пазнаёміўся з Міхасём Іванавічам Забэйдам-Суміцкім і пасябраваў да яго апошніх дзён.

У 1965 годзе шырока і на самым высокім узроўні адзначалася шасцідзесяцігоддзе Петруся Броўкі. Ліпень не самы лепшы час для такіх юбілеяў: горад пусцее, пісьменнікі раз'язджаюцца хто куды, артысты на гастролях. А юбілей не церпіць адкладу. Юбілейную камісію ўзначаліў Кандрат Крапіва, запрашалі гасцей з Масквы і саюзных рэспублік, рыхтавалі білеты, з тэлефона не злазіў спакойны і нястомны Мікола Ткачоў. Дыпламат ён быў адменны, угаварыць мог кожнага. Звоніць ён мне і пытаецца, ці не збіраюся куды ехаць. Я сказаў, што буду да канца жніўня. "От і добра. З табою хоча пагаварыць Кандрат Кандратавіч". Я здзівіўся: ніколі мы не гаварылі па тэлефоне, бачыліся толькі на пасяджэннях. У трубцы ўжо гучаў спакойны голас Крапівы: "Мы тут параіліся і вырашылі прасіць вас сказаць шчырае слова на юбілеі Петруся". — "Што вы, Кандрат Кандратавіч?! Хто мяне ведае? Што я значу? Ёсць жа народныя, выдатныя, вядомыя. А я хто? Гэта ж будзе абраза Петрусю, скажуць, што лепшага не знайшлі прамоўцу. Не, Кандрат Кандратавіч". — "Дык ён якраз сам і прасіў вас. А народныя ўсе ў раз'ездзе. Ды і не званне важна, а сутнасць. Ён сам яшчэ пазвоніць"... Пачуліся кароткія гудкі...

Я зразумеў, што мне прапануюць пачэсную ролю, і апаноўваў страх выступаць перад такой аўдыторыяй. Што новага і цікавага магу сказаць пра славутага аўтара з усімі званнямі, узнагародамі, з дзесяткамі кніг, перакладзеных на розныя мовы?! Пачаць аналіз творчасці, росту майстэрства — значыць замарыць аўдыторыю і юбіляра. Трэба шукаць нешта сваё — раскрыць асобу, творчую індывідуальнасць, праілюстраваць яскравымі цытатамі. Пакуль думаў, пазваніў сам юбіляр: "Ну як? Угаварыў цябе Кандрат? І я прашу, вось і Лёля па даўняй памяці далучаецца. Скажы кароткае шчырае слова, без дзяжурных эпітэтаў. Пакінь іх акадэмікам". Я загаварыў пра сваю неадпаведнасць ягонаму ўзроўню. Павінны народны ці акадэмік гаварыць. "Ат, не тлумі галаву. Ты ж ведаеш, як акадэмікі могуць не толькі людзей, а і мух замарыць. А народныя, кажуць, раз'ехаліся ці можа туляюцца. Не кожны народны бывае родны", — скаламбурыў Пятрусь.

Вечар прайшоў на вышэйшым урачыстым узроўні: у тэатры не пуставалі галёрка, ні праходы, у прэзідыуме — кіраўнікі рэспублікі, літаратурныя "генералы" з Масквы, Ленінграда і ўсіх рэспублік — адны славутасці: з каўказскімі буркамі, азіяцкімі халатамі і цюбецейкамі, прыбалтыйскімі паясамі. На стале — штабелі папак-віншаванняў, горы кветак, фантаны віншавальных слоў, як звычайна, ад рабочых, калгаснікаў, студэнтаў. Пакуль я ішоў да трыбуны, калаціўся, каб не праваліцца, а загаварыў — і ўвайшоў у каляіну. Калі ж назваў імя Алены Сцяпанаўны — маці паэта, закатаванай у Асвенціме ў 1943 годзе, уся зала ўстала ў глыбокім маўчанні. Пятрусь расчуліўся да слёз, і я ледзь стрымліваўся, цытуючы самыя пранікнёныя радкі з найлепшай Броўкавай паэмы "Голас сэрца". Пазіраючы ў партэр, заўважыў, што некаторыя самаўпэўненыя маладыя таленты ў часе апладысментаў то нагінаюцца, нібыта нешта падняць, то паварочваюцца да суседа і часта ўхмыляюцца. Праз дзень-другі добра знаёмыя тры-чатыры пісьменнікі пазбягаюць вітацца са мною. Адзін найбольш шчыры папракнуў: "Ну, навошта было так хваліць? Пасрэдны ж паэт, прыслужнік ЦК". Яму я пры сведках сказаў: "Пражывіце столькі, зрабіце хоць палову зробленага Броўкам, праз трыццаць гадоў вам не такая будзе хвала". Я па наіўнасці не разумеў, што цішком рыхтаваўся "пераварот" у Саюзе пісьменнікаў. Кіраваць хацелася маладзейшым, каб часцей выдавацца, перавыдавацца, перакладацца, прадстаўляць скрозь сябе і сяброў як больш таленавітых за іншых...

Ніякіх прэтэнзій да Броўкі не магло быць: ён выбіваў кватэры, адстойваў выданні і перавыданні, персанальныя пенсіі, на дэпутацкіх бланках пісаў хадайніцтвы і дамагаўся магчымага і немагчымага. Але апетыты людскія часам не ведаюць межаў, а ў некаторых "дзеячаў" культуры і літаратуры зайздрасць і прага славы — неадольная хвароба.

Не буду сцвярджаць, што ўсе званні і ўзнагароды ў Броўкі былі заслужаныя, былі выслужаныя. Была ж такая сістэма. У самай вялікай краіне ордэнаў і медалёў раздадзена, мабыць, больш, чым усяго насельніцтва. Варта было пры пасадзе атрымаць першы ордэн, як у кожнае свята сыпаліся наступныя: нельга ж крыўдзіць заслужанага чалавека. Такая была логіка. Так і пладзіліся Героі, народныя, заслужаныя, лаўрэаты, акадэмікі з сярэдняю адукацыяй. Адны радаваліся і раскашавалі, іншыя бедавалі: "Чаму не я? Я ж лепшы". І вялі падкопы пад шчаслівчыкаў. Сапраўды, смешна, што за вершыкі для дзяцей, за п'есы-аднадзёнкі, за доўгія паэмы пра калгаснае "шчасце" — Героі. А колькі ганаровых званняў! Няма толькі галоўнага і масавага "Заслужаны пакутнік". Яны актыўна адыходзяць без пашаны, без памяці, крыжоў і помнікаў.

Мабыць гэта разумеў Броўка і не насіў сваіх рэгаліяў, апрача дэпутацкага значка — самага надзейнага пропуска.

Увосень 1963 года Броўку запрасілі на з'езд пісьменнікаў Літвы. Ён узяў мяне членам дэлегацыі і параіў перакласці некалькі вершаў нашых суседзяў. Я пераклаў шмат для анталогіі літоўскай паэзіі. Пара была пахмурная, ноччу імжыў доджджык, а раніцай прымаразак "зашкліў" усе дарогі. Выехалі на "ЗІМ"е рана, а дарога на Вільню зіхаціць, як каток. У кюветах ужо ляжаць грузавікі і легкавушкі. Нашу доўгую машыну з трыма седакамі матляла на ўсе бакі, ставіла ўпоперак дарогі. Дзякаваць Богу — на шашы амаль не было звычайнага патоку машын. Мы з Броўкам вылазілі, упіналіся ў багажнік, разварочвалі машыну і ледзь дабраліся да Ашмян. Ад слупка з сімвалічным парубежным знакам дарога да Вільні была шчодра пасыпана пяском, і мы паехалі поўным ходам.

**Сяргей ГРАХОЎСКІ.**

**Працяг.**
**Пачатак у № 1—2.**

*ПОМНІКІ*



**Замкавая гара — месца свяшчэннае не толькі для тураўчан. Менавіта таму на ёй і вырашана было ўзвесці манумент у памяць ураджэнца Турава царкоўнага дзеяча, пісьменніка, публіцыста Кірылы Тураўскага. У XII стагоддзі тут размяшчаўся адзін з сямідзесяці храмаў, была школа дойлідства.**

**НА ЗДЫМКУ: помнік К. ТУРАЎСКАМУ на Замкавай гары ў Тураве.**

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА.**

## АД КАЛЯДНАЙ ЗОРКІ...

**Святло і дабрыню панеслі ў сваіх душах выхаванцы 4-га класа 3-й мінскай школы-інтэрната і іх настаўніца Ірына Курышка з "Беларускай хаткі", дзе напярэдадні Новага года было наладжана сапраўднае Каляднае свята — з Батлейкай, песнямі, вершамі і падарункамі.**

**А прычыніліся да гэтай высакароднай акцыі загадчык музея — паэт, бард і батлейшчык Эдуард Акулін, а таксама ўдзельнікі клуба "Беларуская хатка" — Валянціна Сучок, Алесь Дзітрых і нязменны кіраўнік клуба Ала Ходан.**

**Калісь, жывучы ў гэтым доме, хворы Максім Багдановіч збіраў-эканоміў цукар, што атрымліваў на харчовы паёк, каб перадаць яго дзецям-сіротам з бежанскага прытулку, што, дарэчы, і зрабіў перад Калядамі далёкага 1917-га. Сёлета Максімава дабрачынная традыцыя адрадзілася, дзякуючы мецэнацкай падтрымцы беларускага бізнесмена Аляксандра Ходана.**

**Думаецца, што той урок дабрыні і міласэрнасці, які атрымалі дзеткі ў "Беларускай хатцы", дапаможа ім самім хоць крыху наблізіцца да тых жыццёвых ідэалаў, якія пакінуў нам у спадчыну Максім.**

*МАСТАКІ*



**У аднаго са старэйшых мастакоў Гомельшчыны Станіслава ДЗЬЯКАНАВА каля сямісот карцін. Вясной ён збіраецца выступіць з персанальнай выставай у Мінску.**

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА.**

## ВЫСТАВЫ









**У Рэспубліканскай мастацкай галерэі працавала выстава скульптуры Сяргея Бандарэнкі. Яго часта называюць скульптарам-анімалістам. У яго творчасці значную частку займаюць адлюстраванні жывёл, у прыватнасці, коней. Творам Сяргея Бандарэнкі ўласцівыя філасофія, алегорыя. Такія яго работы "Фаэтон", "Адэпт", серыя работ "Смаўжы", "Лясная легенда" і іншыя.**

**НА ЗДЫМКАХ: "Афрадзіта"; скульптар Сяргей БАНДАРЭНКА; "Кентаўр".**

**Фота Яўгена КАЗЮЛІ.**

ДЛЯ ПАМЯЦІ НАШЧАДКАЎ

# ПАРТРЭТЫ, ЯКІХ МЫ НІКОЛІ НЕ ЎБАЧЫМ

У 1993 годзе ў Маскве ў выдавецтве "Галактыка Арт" выйшла кніга "Для памяти потомству своему...(Народный бытовой портрет в России)". Гэты прыгожа выдадзены на падставе мастацкіх збораў Дзяржаўнага Гістарычнага музея ў Маскве альбом-фаліянт прысвечаны адной з найцікавейшых тэм — саслоўнаму (пераважна купецкаму і мяшчанскаму) партрэту як адметнай з'яве рускага партрэтнага мастацтва. У шэрагу мастацтвазнаўчых артыкулаў альбома побытавы партрэт канца XVIII — 1-й паловы XIX стагоддзяў разглядаецца ў кантэксце рускага партрэтнага жывапісу ўвогуле, а таксама аналізуюцца яго асобныя элементы: прадстаўлены на ім прадметны свет, традыцыйнае народнае ды гарадское адзенне, стараверская атрыбутыка і г. д.

Гартаючы старонкі альбома, прыходзіш да высновы, што саслоўны побытавы партрэт — з'ява ўвогуле унікальная і надзвычай цікавая, пачынаючы ад памежнай стылістыкі твораў (паміж прафесійным і наіўным мастацтвам) да той важнай мемарыяльнай функцыі, якую выконвалі партрэты ў справе сямейнага выхавання спадчыннікаў родаў. Уразіла і колькасць прадстаўленых у альбоме рэпрадукцый — больш за сотню. Улічваючы супольнасць гісторыі Беларусі і Расіі Новага часу, адразу захацелася для параўнання традыцый прыгадаць нейкія тутэйшыя беларускія аналагі. Аднак не атрымалася нічога. З-за амаль татальнай страты жывапісных помнікаў азначанай пары гэтая тэма — "terra incognita" для сучаснага беларускага мастацтвазнаўства. Як вядома, больш-менш даследаваным з'яўляецца толькі беларускі сармацкі партрэт XVI—XVIII стагоддзяў, аднак пра мяшчанскія ці купецкія выявы нашы даследчыкі не згадваюць амаль ніколі. Але ў тым, што саслоўны побытавы партрэт у свой час меў шырокае распаўсюджанне асабліва сярод гарадскога насельніцтва, сумнявацца не прыходзіцца. Дык што, такім чынам выяўляецца чарговая "белая пляма" беларускай культуры, якую зараз ужо ніяк немагчыма адчытаць? На першы погляд, так, але...

Але да нашага часу ў гістарычных крыніцах існуюць вярбальныя апісанні тых жывапісных помнікаў, якія ўжо даўно перапынілі сваё фізічнае існаванне. Вядома, адноўленыя такім чынам партрэты хутчэй нагадваюць бесцялесных прывідаў, аднак карысць ад такой іх "рэстаўрацыі" відавочная — небеспадстаўнымі аказваюцца сцвярджэнні, што на Беларусі таксама існавала досыць распаўсюджаная традыцыя саслоўнага побытавага партрэта з усімі найбольш уласцівымі жанру рысамі.

Паколькі прадметам маіх зацікаўленняў у найбольшай ступені з'яўляецца Віцебск і яго ваколіцы, разгорнем "Статыстычны нарыс" горада, выдадзены ў 1865 годзе А. Семянтоўскім. Апісваючы інтэр'еры віцебскай Мікалаеўскай Завіцьбенскай царквы, пабудаванай у 1798 годзе коштам віцебскіх купцоў Фамы і Марыі Глінскіх, краязнаўца адзначае наступнае: "У Мікалаеўскай царкве, над уваходнымі дзвярыма, насупраць іканастаса, устаўлены ў драўляную пазалочаную раму, напісаны алейнымі фарбамі, партрэт заснавальніцы Увядзенскага храма Марыі Фёдаравай Глінкі. Мяркуючы па малюнку, Марыя Глінка была вельмі прыгожая жанчына, мела вялікія чорныя вочы, грэчаскі нос і разумны, мужны твар; на партрэце яна прадстаўлена ў 40-гадовым узросце; галава яе павязана цёмнай хусткай, шыя ўпрыгожана дзвюма ніткамі буйнога жэмчугу, у вушах завушніцы, у каўнерыку запінка, на руцэ пярсцёнак. З надпісу на закладцы кнігі, якая знаходзіцца ў руцэ будаўніцы храма, відаць, што яна нарадзілася ў 1794 годзе ў Курляндыі, у мызе Лівенгоф, паходзіла з сям'і Дэфарбэ, памерла 7 сакавіка 1821 года і пахавана ў Віцебску, у царкве Увядзення".

Варта адзначыць, што гэта найбольш падрабязнае апісанне з усіх, што мне ўдалося знайсці. Дзякуючы яго дакладнасці, на партрэце можна знайсці асобныя элементы, якія характарызуюць прыналежнасць жанчыны да купецкага стану (хустка на галаве і ніткі дарагіх жамчужных караляў на шыі). Спецыфічнай саслоўнай адзнакай з'яўляецца і "радаводны" запіс на закладцы кнігі.

Апісанне наступнага партрэта — віцебскага мешчаніна Патапа Бібкі знаходзім у той жа працы руплівага краязнаўцы. Дарэчы, браты Бібкі — знаныя віцябляне, прозвішча якіх было зафіксавана ў гістарычнай тапаніміцы горада (карэнныя віцябляне да гэтага часу называюць вуліцу Купалы Бібкавым завулкам). На партрэце, які вісеў на хорах фундаванай ім Свята-Духаўскай царквы Віцебскага жаночага базыльянскага кляштара, Патап Бібка быў прадстаўлены "старым гадоў 70; у яго вялікіх блакітных вачах бачна дабрыня; арліны нос; белыя вусы і высокае, выбеленае сівізною чало сведчаць пра чалавека з вялікім розумам і моцнай воляй".

Не думаю, што гэтымі двума апісаннямі вычэрпваецца ўся інфармацыя, якая захавалася пра віцебскія мяшчанска-купецкія партрэты канца XVIII — пачатку XIX стагоддзяў. Гэта толькі тое, што аказалася навідавоку. Тэма патрабуе больш грунтоўнай распрацоўкі і арганізацыі мэтанакіраванага пошуку.

Разам са звесткамі пра побытавы партрэт будуць, безумоўна, знойдзены новыя матэрыялы і пра саслоўны шляхецкі, або так званы сармацкі партрэт. Паводле сведчанняў А. Семянтоўскага, у сакрысціі Віцебскага дамініканскага касцёла захоўваўся партрэт аднаго з яго фундатараў — графа Міхаіла Пацея, які памёр на 96-м годзе жыцця 13 снежня 1791 года. Касцёл згарэў у 1868 годзе разам з каштоўнай бібліятэкай, якая мела каля 600 кніг, выдадзеных у XV—XVIII стагоддзях. Аднак, магчыма, у актах візітацый, якія яшчэ трэба знайсці ў архівах, захаваліся якія-небудзь апісанні партрэта, ды і звесткі пра бібліятэку ўяўляюць сёння не меншую цікавасць.

Віцебскі езуіцкі касцёл у гонар Св. Юзафа ў XVIII стагоддзі стаў месцам пахавання прадстаўнікоў знакамітага роду князёў Агінскіх. Тут былі пахаваны віцебскі ваявода Марцыян Агінскі, дзве ягоныя жонкі (Тэрэза з Бжастоўскіх і Хрысціна з Абрамовічаў), сын Ігнаці і жонка апошняга Алена з Агінскіх. Няма сумненняў, што ў касцёле захоўваліся пахавальныя партрэты нябожчыкаў, што былі найбольш распаўсюджаным тыпам сармацкага партрэта. Вядома, што князь Марцыян Агінскі памёр 29 кастрычніка 1750 года, аднак пахавальныя ўрачыстасці адбыліся ў Віцебску толькі 14—17 лютага 1751 года. Адтэрміноўка пахавання нябожчыка на некалькі месяцаў або нават гадоў ад моманту смерці была традыцыйнай для таго часу. Гэта ў сваю чаргу выклікала неабходнасць хоць бы штучна (у выглядзе партрэта) "уваскрэсіць" нябожчыка, каб з ім маглі развітацца родзічы, што прыязджалі здалёк. Падчас пахавальнай цырымоніі партрэт памерлага, які звычайна мацаваўся на тарцы ў нагах труны, аказваўся не проста выявай, ён у пэўнай меры замяшчаў нябожчыка. Звычайна ў дні пахаванняў знакамітых асоб партрэты продкаў таксама ўключаліся ў пышную жалобную цырымонію. Пасярод храма ўсталёўваўся катафалк, на які ставілі труну, а партрэты продкаў развешваліся па сценах, набываючы такім чынам спецыфічны сакральны змест. На жаль, ніводзін з гэтых партрэтаў князёў Агінскіх не захаваўся да нашага часу, як не захаваўся і сам касцёл езуітаў, узарваны ў 1957 годзе.

Крыху больш пашчасціла партрэту віцебскага ваяводы Яна Антонія Храпавіцкага, які да 1917 года захоўваўся ў сакрысціі касцёла Св. Антонія ў Віцебску. Алейны арыгінал, які меў памеры 77х105 сантыметраў, у мінулым стагоддзі быў скапіраваны і нават двойчы: Ксаверыем Янам Канеўскім у 1867 годзе ў Вільні і Розам у 1868 годзе ў Рызе. Да нашага часу не дажыў ні сам арыгінал і ніводная з ягоных копій. Аднак у сям'і Храпавіцкіх захаваўся адбітак адной з копій, зроблены ў 1944 годзе, які адшукалі польскія даследчыкі і ўключылі ў "Дыярыуш" віцебскага ваяводы, што быў выдадзены ў 1978 годзе ў Варшаве.

У капліцы ў імя Божай Маці пры Віцебскім кляштары мар'явітак на адной са сцен віселі партрэты вялікага князя Канстанціна Паўлавіча і яго жонкі княгіні Жанеты Ловіч. Трэба меркаваць, што гэта быў адмысловы і надзвычай рэдкі для Беларусі І-й паловы XIX стагоддзя ўзор партрэта фундатараў, якія адначасова з'яўляліся прадстаўнікамі царуючага дому. Хутчэй за ўсё, пасля раптоўнай і ахутанай таямніцай смерці Канстанціна Паўлавіча ў Віцебску ў 1831 годзе абодва партрэты былі выкананы не ў Пецярбургу, а заказаны нейкаму мясцоваму майстру пэндзля. Застаецца толькі чарговы раз пашкадаваць, што пра гэтыя выявы мы не маем больш ніякіх звестак.

На пачатку 1970-х гадоў па Віцебшчыне падарожнічаў маскоўскі гісторык і археолаг Л. Аляксееў. Вынікам ягонае вандроўкі сталася змястоўная кніжачка кішэннага фармату "По Западной Двине и Днепру в Белоруссии". На старонках 74—80 знаходзім аповяд пра наведванне аўтарам касцёла ў вёсцы Лучай Пастаўскага раёна. Сярод іншага чытаем: "У рызніцы (так званае "сакрысціе"), дзе захоўваюцца яшчэ і зараз рызы і богаслужэбны рэквізіт, са сцен глядзяць тры старадаўнія пацьмянелыя партрэты надзвычайнай работы сярэдзіны XVIII стагоддзя. Адзін з іх — жаночы — захаваўся цудоўна, другі — мужчынскі — намнога горш, трэці ўяўляе руіну". Першыя два партрэты, пра якія згадвае Л. Аляксееў, — выявы фундатараў касцёла: мсціслаўскага кашталяна Антонія Пузыны і яго жонкі Эльжбеты з Агінскіх. Партрэты зараз адрэстаўрыраваны і з'яўляюцца жамчужынамі мастацкай калекцыі Віцебскага абласнога краязнаўчага музея. Лёс жа трэцяга партрэта надзвычай незайздросны. Як адзначаў Аляксееў, "партрэт, відаць, прадстаўляў самога Тадэвуша Агінскага (траюраднага брата Эльжбеты Пузыны, на сродкі якога было скончана будаўніцтва касцёла. — **Л. Х.**), аднак фарба з яго абсыпалася". Апошняя фраза выглядае як прысуд. З-за дрэннай захаванасці партрэт у свой час не быў узяты з касцёла і цяпер, відаць, проста загінуў.

Аднак уяўленне аб тым, як выглядаў Тадэвуш Агінскі, можна скласці на падставе апісання аднаго з яго партрэтаў, што захоўваўся некалі ў Тадулінскім кляштары пад Віцебскам, якое пакінуў нам незабыўны А. Семянтоўскі. У апісанні кляштара, змешчаным у "Памятной книжке Витебской губернии на 1866 год", краязнаўца адзначаў, што галоўным упрыгажэннем пакояў настаяцеля былі "раскошны плюшч, які абвіваў вянком свежай зеляніны сцены пакоя, ды напісаны алейнымі фарбамі партрэт фундатара кляштара Фадзея (Тадэвуша. — **Л. Х.**) Агінскага. На партрэце гэтым Агінскі прадстаўлены даволі маладым і прыгожым чалавекам; падголеныя ў кружок русыя валасы, блакітныя вочы і невялікія вусікі, якія адцяняюць прыгожыя вусны, надаюць прыемны выраз разумнаму твару фундатара. Апрануты ён зверху чырвонага кунтуша ў варанёную кальчугу, на якую накладзена стужка Белага Арла, а на левае плячо накінута сіняя аксамітная, падбітая бабровым футрам, мантыя. Уверсе партрэта з аднаго боку герб Агінскага, а з другога на разгорнутай хартыі польскі надпіс: "THADEVSZ OGINSKI, Woewoda Trocki, Resowski, Babilicki, et Starosta, Pulkownik Husarski, I. K. Mci, Orla Bialego kawaler, Fundator Bazylianow w Tadulinie. An. 1743".

Вось, бадай што, і ўсе звесткі, якія ўдалося мне знайсці сярод сваіх архіўных ды бібліяграфічных выпісак пра страчаныя незваротна партрэтныя выявы з Віцебшчыны. Безумоўна, гэты пералік далёка не поўны, аднак, магчыма, ён — першая старонка ў кнізе, якую трэба напісаць разам.

**Людміла ХМЯЛЬНІЦКАЯ.**

# КАЛЯДЫ НА БЕЛАРУСІ



(Заканчэнне.
Пачатак на 1-й стар.).

Урачыста і радасна адзначаліся па ўсёй Беларусі Каляды. У праваслаўных храмах адбываліся богаслужэнні, а на вуліцах гарадоў і вёсак прайшлі народныя гулянні: пераапранутыя калядоўшчыкі хадзілі па хатах, а ў Мінску іх можна было сустрэць і ў метро, і ў самых вялікіх магазінах, у парках, проста на вуліцы. Усюды ў той дзень гучала музыка, чуліся народныя песні. Упершыню ў Мінску было арганізавана свята "Мінскія каляды". На ім і зрабіў свае здымкі фотакарэспандэнт Віктар СТАВЕР.









Рэдактар
Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).



НАШ АДРАС:
220005, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 44.

Тэлефоны: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.

Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77). Тыраж 3 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 30. Падпісана да друку 13.1.1997 г. у 12.00. Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.